РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

Кошт 50 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №10 (119). 9 САКАВІКА 1994 ГОДА.

СЁННЯ:





Стар. 8 — 9

ЭКСПЕДЫЦЫЯ

Стар. 6 — 7

## Забіты двойчы

Стар. 13

*Для аптымізму мала ў нас прычынаў:*
*Парламент, лямант, лозунгі, снягі...*
*Халодны свет!*
*Ідзе ў яго жанчына*
*Гарачым сэрцам растапіць снягі.*

Фота Генадзя ЖЫНКОВА.

## У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

- 7 сакавіка ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы адбыўся прэм'ерны паказ трагікамедыі ў стылі блюз Ю.О'Ніла «Лэдзі нявіннасць».
- 9 сакавіка ў Альтэрнатыўным тэатры адзначаць свой пяцігадовы юбілей папулярная рок-група «Уліс».
- 10 сакавіка ў Зале камернай музыкі (праспект Ф.Скарыны, 44-а) выступіць ансамбль з Францыі «Alegria», у выкананні якога прагучыць музыка эпохі Адраджэння.
- У Мінскім доме афіцэраў працягваецца выстава-продаж керамікі і мастацкіх вырабаў беларускіх мастакоў, арганізаваная галерэяй «Медэя».
- У Цэнтры фальклору «Белая дача» адкрыта персанальная выстава майстрыхі па мастацкай апрацоўцы скуры Аляксандры Ламанос. Яе наладзілі Саюз майстроў народнай творчасці Беларусі, БелІПК.
- 13 сакавіка ў Белдзяржфілармоніі — канцэрт Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь. Мастацкі кіраўнік — В.Дуброўскі, дырыжор — В.Дмухоўскі (Польшча), салістка — А.Чабатарова (скрыпка). Прагучаць творы Брамса і Берліёза.



10 сакавіка споўнілася б 52 гады Міхасю ТКАЧОВУ.

*Знямогшыся, пайшоў ад*
*нас нячутна.*
*Сышоў слязінкай*
*светлай па траве.*
*Але жыве між нас*
*твой дух магутны —*
*І справа беларуская*
*жыве!*

ЗАМЕСТ «ПАЛІТЫЧНАГА БАРОМЕТРА»

# САКАВІЦКАЕ ЭСЭ

Калі зямля захутана снегам, калі маразы сціскаюць рэчкі лядовым панцырам, калі на душы холадна і няўтульна ад усялякіх эканамічных ды палітычных негаразняцaў і праблем, мы, узіраючыся ў зыркае веснавое сонца, шукаем цяпла. І мы знаходзім яго. Знаходзім у нашых жанчынах.

Куды сонцу да гарачыні любячай душы жанчыны!

Куды сонцу да пяшчоты яе погляду!

Куды сонцу да дрыготкай сілы яе рук!

Мужчына—ваяр, змагар і гаспадар — заўсёды шукаў надзейнае апірышча. І ён знаходзіў яго ў жанчыне. І, урэшце, абагаўляў сваю жанчыну.

І не толькі сваю.

Жанчына з развіццём цывілізацыі ператваралася ў сімвал, у знак усяго самага лепшага і добрага на Зямлі.

Жанчына — выкрышталізаваная прыгажосць.

Жанчына — квінтэсенцыя дабрыні.

Жанчына — згустак пяшчоты.

Жанчына — крыніца ўпэўненасці.

І адначасна мы, мужчыны, не шукаючы, знаходзілі свой сэнс жыцця. І знаходзілі яго ў жанчынах.

Нам, моцным, вялікім, шчырым, трэба некага трымаць на руках. Трэба пра некага клапаціцца. Трэба некага песціць так, каб сублімаваць у пяшчоту энергію і напругу мужчынскай барацьбы.

І потым папаўняць гэтую энергію ад любай жанчыны.

А яшчэ, бадай — найперш, жанчына ёсць маці.

Гэта яна дорыць нам нечуванае пачуццё бацькоўства. Гэта дзякуючы ёй бугрямі напінаюцца ўсе нашыя мышцы, калі мы ўпершыню бяром на рукі пакуначак са сваім немаўляткам. І мы памятаем пра гэты момант усё жыццё. І вечна шануем тую жанчыну, якая падарыла жыццё нам самім.

Вясна дорыць нам жанчын, жанчыны дораць нам вясну...

Максім ГІЛЕЎСКІ

# МАРЫЯ І «РАГНЕДА»

З'яўленне новых перыядычных выданняў для шараговага чытача, здаецца, ужо стала справай звычайнай. І не робіць такога выбуху ў грамадстве, як гэта было колькі год таму, калі ўсе мы пакутавалі ад інфармацыйнага голаду. Разам з рынкавымі адносінамі ўзнікла і такое паняцце, як рынак інфармацыі, на прасторах якога зноў-такі даводзіцца блукаць нам, чытачам.

Але ўсё ж такі адна справа — наш гераічны Мінск, калі шапікі «Белдрука» завалены разнастайнай прадукцыяй і колькасць друкаваных выданняў з часам усё большыцца, і іншае — далёкая правінцыя, дзе натаўпы гэтыя самы голад яшчэ вой як цяжка і калі ўлады на месцах, стараючы вонкавае зацішша, не дужа шануюць якое там праяўленне свабодалюбства і вольнадумнасці.

Нельга, здаецца, такое сказаць пра Салігорск, адзін з самых маладых і моцна абруселых гарадоў Беларусі, дзе выдаецца ледзь не з дзесятак разнастайных газет, і на іх недахоп грэх скардзіцца мясцовым жыхарам.

Але нягледзячы на гэта, у горадзе пачала выходзіць у свет новая беларускамоўная газета «Рагнеда», адзіная газета такога кшталту, якая адразу ж знайшла свайго чытача не толькі ў Салігорску, але і па-за яго межамі. А заснавальнікам яе выступіла Салігорская аб'яднаная раённа-гарадская рада Таварыства беларускай мовы, і ўжо на пачатку стварэння газеты галоўнай мэтай было далучыць салігорцаў да скарбаў беларускай гісторыі, і паказаць ім усю самабытнасць і багацце нацыянальнай культурнай спадчыны, і, канешне, раскрыць усе аспекты сучаснага жыцця горада і раёна. І нездарма эпіграфам да газеты сталі словы пісьменніка Л.Шпакоўскага-Случаніна: «Памятай, беларус, што і ты чалавек, які можа сабой гаспадарыць!».

Газета выдаецца на грамадскіх асновах, і ідэя стварэння «Рагнеды» належыць Марыі Мацукевіч, старшыні салігорскай рады ТБМ, сябру сакратарыята Рэспубліканскага таварыства беларускай мовы. Яна і рэдагуе новую газету. Акрамя таго, М.Мацукевіч выкладае родную мову ў адной з сярэдніх школ горада. Дарэчы, яе вучні выступаюць актыўнымі аўтарамі «Рагнеды»: друкуюць свае замалёўкі і першыя вершы. Пры падрыхтоўцы матэрыялаў вялікую дапамогу аказваюць супрацоўнікі мясцовага музея. Ужо ўсталявалася і пэўнае кола сяброў газеты.

— Не такі ўжо просты быў шлях «Рагнеды» да чытача, — гаворыць рэдактар газеты Марыя Мацукевіч. — Але знайшліся людзі, неабыякавыя да адраджэння культурнай спадчыны, якія не далі загінуць на карані маладой, адзінай у Салігорску беларускамоўнай газеце, — гэта супрацоўнікі таварыства з абмежаванай адказнасцю «БелПВТТА» і навукова-вытворчай камерцыйнай фірмы «Грэйп». Яны ў будучай газеце бачылі і сябра, і дарадчыка, бо друкаванае слова «Рагнеды» можа дапамагчы салігорцам усвядоміць, што і мы, беларусы, не бязродныя Іваны, не пасчынкі ў гэтым свеце; мы — этнас, мы — нацыя... Дарэчы, тут будзе прыведзена думка, якую выказаў літаратуразнаўца Адам Мальдзіс: «Калі ў чалавека няма патрыятычных пачуццяў, ён становіцца перакаці-полем, якому ўсё роўна, што гіне: культура, памяць ці зямля».

А да гэтага Марыя Мацукевіч актыўна супрацоўнічала са шматлікімі гарадскімі газетамі. На мясцовым тэлеканале вяла перадачы, прысвечаныя беларускім традыцыям. Гэтым самым імкнулася прабіць сцяну абыякавасці. Але не дужа мясцовыя журналісты яе падтрымлівалі і ўсур'ёз не ўспрымалі, — лічылі за бунтара-адзіночку, таму як выступленні Марыі выклікалі вялікі рэзананс і водгукі чытачоў і слухачоў.

Вось таму і ўзнікла задума «Рагнеды», газеты, названай у гонар прыгожай дачкі Рагвалода, які княжыў у другой палове X стагоддзя ў Полацку. І назву сваю газета стараецца апраўдваць, бо менавіта сёння для многіх беларусаў імя Рагнеды — сімвал мужнасці і любові да Радзімы, самаахвярнасці і ўласнага гонару.

М.Р.

# КАБ КОЖНАЯ ПТУШКА ДАЛЯТАЛА...

... Даўно выпісваю газету «Культура» і вельмі паважаю яе нацыянальна-адраджэнскі накірунак, але апошнім часам усё часцей і часцей узнікаюць пытанні, на якія я не знаходжу адказаў, што непакоіць і засмучае... Можа, мае меркаванні і пададуцца вам залішне рэзкімі, але, як кажа адзін мой сябра, без канструктыўнай крытыкі нават самая хуткая рачулка ператвараецца ў балота. А калі адкінуць жарты, дык жаданне напісаць выклікана пачуццём шчырай трывогі за далейшы творчы лёс газеты.

... Пытанне першае: чаму так нерэгулярна (калі не сказаць — рэдка) пачалі з'яўляцца ў «Культуры» гістарычныя старонкі, да якіх за два гады мы, чытачы, гэтак прывыклі? Хіба не засталося больш «белых плямаў» у нашай гісторыі ці гісторыкі не даследуюць больш нашае мінулае? Мяне асабіста вельмі цікавяць публікацыі, прысвечаныя гісторыі, бо кожная з іх — не падобная да ранейшых, глыбокая, арыгінальная і па тэматыцы, і па стылі, адкрывае новую, не вядомую раней шырокаму чытачу старонку нашай мінуўшчыны. І не важна, пра што ідзе гаворка: пра каралёў ды ваенныя паходы ці пра старажытную кафлю ды «зоркавыя» арнаменты нашых бабуль — гэта заўсёды адкрыццё. Падсумоўваючы, мне хацелася б выказаць пажаданне (спадзяюся, што і іншыя чытачы «Культуры» падтрымаюць мяне), каб, нягледзячы на відавочна новую канцэпцыю газеты, што знітавана і з літаратурна-філасофскім сшыткам «ЗНО», і са з'яўленнем новых рубрык, гістарычныя матэрыялы не ператвараліся ўсё ж у нешта неабавязковае, выпадковае.

... У апошні час, на маю думку, «твар» газеты зрабіўся нейкім вельмі сур'ёзным, нават змрочным. Усё больш з'яўляецца матэрыялаў, пра якія адзін мой знаёмец выказаўся, як усё адно Гогаль: «Не кожная птушка даляціць да сярэдзіны гэтага артыкула...»

Так, я згодны, «Культура» — выданне не для падлеткаў, але ж яна, мне здаецца, не павінна разлічваць толькі на акадэмікаў ды прафесараў. Іншы раз сустракаеш такое чыстае «тэарэтызаванне», такі маралізатарскі тон, што сумна становіцца... Аднойчы папытаўся я аднаго знаёмага, які працуе выкладчыкам на універсітэце, што ён думае наконт узроўню філасофскага дадатку «ЗНО». І пачуў у адказ: «Калі два-тры прафесары з факультэта філасофіі і разумеюць там нешта, дык і тое — добра». Не падумайце, што я супраць філасофіі ці прыхільнікаў (філасофскі сшытак, канешне, таксама мае права на існаванне), але чытацкая аўдыторыя «Культуры» ўсё ж павінна быць больш шырокай, уключаючы розныя па ўзроўні інтэлекту групы нашага насельніцтва.

... І яшчэ пытанне: чаму так рэдка з'яўляецца рубрыка «На кубачак гарбаты»? Матэрыялы гэтай рубрыкі распавядалі аб тым, што цікава і карысна нам усім — пра сямейнае выхаванне і яго ныя псіхалагічныя аспекты, пра ўменне не разгубіцца ў сённяшніх катаклізмах жыцця, не разбурыць сябе як асобу... А рэцэпты старажытных беларускіх страваў? Мая бабуля некалі казала, што ведае больш за 500 страваў толькі з бульбы. Хіба гэта не патрэбна нам сёння, калі пануе дэфіцыт ды дарагоўля і калі далёка не ўсе сем'і могуць сабе дазволіць есці кожны дзень мяса ці сыр.

Але я не заклікаю ператвараць газету культурна-асветніцкага напрамку ў жаночае выданне з выкрайкамі адзення ды рэцэптамі ласункаў. Не, для гэтага існуе часопіс «Работніца і сялянка» з яго ным дадаткам «Алеся», прысвечаным хатняй гаспадарцы, часопісы «Міла», «Гаспадыня» ды іншыя. Але мне здаецца, трэба наблізіць газету да звычайнага чалавека, яго ных штодзённых клопатаў, патрэбаў ды захапленняў.

Бо ў рэшце рэшт «Культура» — выданне не для выбраных, яна — калі не для ўсіх, дык, упэўнены, для большасці.

Іван КРАЎЧУК,
г.Мінск.

# «ПЕСНЯ РВЕЦЦА І ЛІЕЦЦА...»

Ў Беластоку (Польшча) прайшоў XXV традыцыйны фестываль «Беларуская песня-94».

Для ўдзелу ў музычным свяце былі запрошаны прадстаўнікі Беларусі. Спецыяльна для фэсту Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь вызначыла пяць каштоўных прызоў і ганаровыя граматы. Апрача таго, напярэдадні падзей для аматарскіх калектываў Беласточчыны былі пашыты і перададзены касцюмы, ручнікі для аздаблення сцэны. Прызначыла свой прыз і Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

У судзейскую каманду ўваходзілі вядомыя дзеячы культуры і мастацтва нашай краіны. Спаборнічалі ў фестывальным конкурсе не толькі выканаўцы і ансамблі з Беласточчыны, але і самадзейныя беларускія артысты з усёй Польшчы.

Наталля КІРПІЧЭНКАВА.

**Нагадваем нашым чытачам, што працягваецца падпіска на штотыднёвік «Культура» на другі квартал 1994 года.**
**Падпісны індэкс «Культуры» — 63875.**
**Кошт падпіскі:**
**на тры месяцы — 2400 рублёў,**
**на адзін месяц — 800 рублёў.**

# ЧАС СПРАВАЎ, ЧАС СЛОВАЎ

**Аляксандр СТАНЮТА**

*(Заканчэнне. Пачатак у N 9)*

### 3. МЕНТАЛІТЭТ І ЖЫЦЦЁ

У перыёдыцы сёння даволі часта згадваюць менталітэт (ментальнасць) нацыі. Але з канкрэтных рысаў называюць толькі адну: талерантнасць беларусаў. Пад гэтым разумеюцца памяркоўнасць і цярплівасць, падатлівасць і паслухмянасць беларускага характару.

Магчыма, гэта і слушна. Але амаль нічога не кажацца пра такую глыбока тыповую рысу нацыянальнага характару, як жыццёвы практыцызм і прагматызм. Гэта заканамерна для народа, моцна знітаванага з зямлёй. Для беларусаў, як яшчэ шмат у чым «аграрнай» нацыі, жыццёвы рацыяналізм характэрны не ў меншай ступені, чым праслаўтая талерантнасць.

Што гэта азначае ў аспекце таго ж нацыянальна-культурнага адраджэння? А тое, што гэтая ідэя, падобна якой-кольвек іншай, прыцягне беларусаў да працы на яе толькі ў той ступені, у якой яны ўбачаць тут свае практычныя, жыццёвыя інтарэсы.

Таму для сапраўднай беларусізацыі замала, напрыклад, адных размоваў пра беларускія школы, замала нават адкрыцця школ, названых беларускімі. Трэба, каб яны былі забяспечаныя камп'ютэрамі не горш за рускія, і каб не горш, чым у рускіх школах, былі там настаўнікі.

Але ж гэта ўсё — непараўнальна цяжэй, чым бедаваць аб малой распаўсюджанасці беларушчыны (у чым, дарэчы, не так проста цяпер вінаваціць «Маскву»). Бо тут патрэбныя ўжо не «талерантнасць», якая часткова сталася сінонімам бяздзейнасці, і не той жыццёвы практыцызм, што скіраваны на асабістыя выгоды.

Тут патрэбныя ўмела кантралюемая адказнасць за ўдзел у гэтай агульнай справе, якая прыносіць асабістую ўзнагароду — аклад, пасаду, ганарар і г.д., і такая пастаноўка самой гэтай справы, калі б асабісты дабрабыт і рэпутацыя чалавека залежалі ад плёну ягонай грамадзянскай дзейнасці, а не ад чагосьці яшчэ. Тады б на адпаведныя пасады — ва ўсялякай сферы — людзі прызначаліся б не па прынцыпе асабістых прыхільнасцяў, а ў залежнасці ад прафесійнага патэнцыялу таго ці іншага спецыяліста.

Рынкавы лад жыцця — гэта ж не толькі высокія кошты тавараў. Гэта стымуляцыя здольнасцяў чалавека праз адкрытую і аб'ектыўную фіксацыю вынікаў ягонай дзейнасці. Гэта тая сацыяльная і маральная справядлівасць, якая не мае нічога агульнага з той ураўнілаўкай, што абражае годнасць адных і разбэшчвае іншых.

І дзе яшчэ, калі не ў гуманітарных сферах жыцця, можна больш рашуча і хутка ўвесці «рынак» у самым шырокім сэнсе слова? Гэта ж не сфера матэрыяльнай вытворчасці, дзе магчымы пратэст супраць новых прынцыпаў кіравання можа выклікаць супраціўленне і спыненне канвеераў.

Цяжка зразумець, чаму, напрыклад, на філалагічным факультэце Беларускага універсітэта выкладчык, з якога кпіць аўдыторыя, займае такую ж пасаду, мае такі ж аклад і навуковую ступень, як і той выкладчык, чые лекцыі па-сапраўднаму прыцягваюць студэнтаў. Але гэта ёсць і будзе яшчэ доўга.

І немагчыма даць веры, што «філосаф», які не ў стане нават сфармуляваць сваё ўласнае пытанне на сустрэчы з кіраўнікамі рэспублікі ў Акадэміі навук Беларусі, — носіць званне члена-карэспандэнта гэтай акадэміі. Тым не менш — ён ёсць і пажыццёва будзе членам-карэспандэнтам.

Нарэшце, дзе яшчэ, як не ў гуманітарных праграмах і структурах, трэба сёння класці ў аснову асноў і падтрымліваць у супрацоўніках якасці, каштоўныя для ўсялякага нацыянальнага характару:

— розум і волю,

— аналітычнасць і інтуіцыю,

— адказнасць і захопленасць,

— нарэшце, працаздольнасць і адоранасць, гэтую іскру божую, неабходную ва ўсялякай справе?

Без апоры на гэтыя канкрэтныя якасці канкрэтных людзей працэс грамадскага і эканамічнага адраджэння будзе «ісці» хіба што на паперы. Што ж датычыць адраджэння культурнага, то тут без людзей з такімі якасцямі займацца, па сутнасці, увогуле няма чым.

### 4. РЭАЛЬНАСЦЬ: ТВАРЫ І МАСКІ

Паўсядзённая рэчаіснасць — шматаблічная і хаатычная. Адрозныя грамадска-палітычныя «сюжэты» адлюстроўваюцца ў ёй не адразу і не напрасткі.

Затое сама гэтая паўсядзённасць — заўсёды ў нас перад вачыма. І рэакцыя на яе ў мноства людзей ужо самая непасрэдная, бо рэальнае жыццё абсалютнай большасці людзей працякае зусім не ў сферы палітычных падзеяў.

Можна ўпікаць і папракаць сучаснікаў за недастатковую грамадскую і грамадзянскую актыўнасць. Але можна і пагадзіцца, што яны, як і шмат папярэдніх пакаленняў, жывуць, перадусім, не ідэямі, а простым уласным жыццём.

Гэта добра паказаў яшчэ Талстой у «Вайне і міры». Згадаўшы пра важнейшыя для расейскага грамадства палітычныя падзеі таго часу, ён адзначае:

— Жыццё, між тым, *сапраўднае жыццё людзей* (А.С.) са сваімі істотнымі інтарэсамі здароўя, хваробы, працы, адпачынку, са сваімі інтарэсамі думкі, навукі, паэзіі... ішло, як заўжды, незалежна і звонку палітычнай блізкасці або варожасці да Напалеона Банапартэ, і звонку ўсіх магчымых пераўтварэнняў.

«Як і заўжды», — падкрэслівае Талстой.

Кожны сур'ёзны палітык павінны чуйна ўлоўліваць рэакцыю людзей на паўсядзённую рэчаіснасць у яе найбольш простых, найбольш заўважных усім праявах. Так, вельмі цяжка цяпер спыніць спад вытворчасці, зніжэнне ўзроўню жыцця шырокіх масаў. Але ёсць набалелыя праблемы, якія зусім не з'яўляюцца глабальна-невырашальнымі. Яны літаральна абступаюць людзей, штодзённа і штогадзінна, і абураюць іх да скрайнасці. Некаторыя з іх відавочныя ўсім:

— Бядотны стан медыцыны, не здольнай прыпыніць пагрозу фізічнага выраджэння нацыі (бо ўсю яе перавезці, як цяперашніх беларускіх дзяцей, на часовае знаходжанне і лячэнне на Захадзе немагчыма).

— Занядбаны стан экалогіі, у якой разам з медыцынай і трэба было б зрабіць першыя крокі сапраўднага нацыянальнага адраджэння.

— Адсутнасць, па вялікім рахунку, прававой, юрыдычнай абароненасці асобы і яе маёмасці.

— Крымінальныя схільнасці немалой часткі моладзі, асабліва падлеткаў, чыю энергію вандалізму за грошы можна скарыстаць і ў палітычных мэтах, скіраваўшы куды заўгодна.*

— Люмпенізаванае масавае (і не толькі масавае!) мастацтва, якое ў крымінальнай танальнасці падыгрывае нуварышам і трактуе свабоду як разбэшчанасць.

— Поўная беспакаранасць нярэдка напаўпісьменнай, жаргоннай прэсы, якая дазваляе сабе абражаць дзяржаўныя сцягі і герб і ператвараецца ў сродак масавай дэзінфармацыі.

— Нарэшце, здзек з цяжкага жыцця большасці насельніцтва дакучліва-нахабнай TV-рэкламы заморскіх страваў для сабак і насалоды грашыма, гэта значыць — стварэнне вобраза такога рынку, які ўжо не адрозніш ад садома, узведзенага ў ідэал.

Уся гэтая занядбанасць надзённых жыццёвых праблем і прапаганда недасягальнага — не толькі раздражняюць людзей, але і злуюць. І не трэба мець лоб на сем пядзяў, каб зразумець: штохвілінна раздражняемыя, раззлаваныя людзі напагатове зрабіць невядома што.

Вось да гэтай іхняй гатоўнасці заўсёды аказваецца непадрыхтаванай улада, прычым — усялякая.

---

* *Куды менш заўважнай, але ад гэтага не менш рэальнай з'яўляецца негатыўная энергія іншага кшталту — прадстаўнікоў сярэдняга ўзроўню тэхнічнай і гуманітарнай інтэлігенцыі, службоўцаў ды інш. Гэта людзі або разлютаваныя асабістымі жыццёвымі няўдачамі, сваёй нерэалізаванасцю і непатрэбнасцю, або раззлаваныя стратай гультаяватага спакою пры звыклай, хаця і невялікай, але гарантаванай матэрыяльнай «пайцы». Нарэшце, проста антысеміты, юдафобы ды іншыя псіхічна нездаровыя людзі. Усіх іх могуць палітычна накіроўваць не грошы, а ўшчэмленае самалюбства, прага рэваншу ў асабістай долі і бясконцая манія пошуку ворагаў. Кастрычнік 1993 года ў Маскве лішні раз засведчыў, як проста злучаецца ўсё гэта ў практыцы чырвона-карычневага тэрору.*

# «ЗАКАЗНАЯ СТРАВА»

Шмат хто з нас, напэўна, бываў у такім дзіўным і цяжкім стане, калі бачыш ці чуеш нешта абуральна крыўднае і беспардоннае, а запярэчыць ці зрабіць штосьці для спынення гэтага недарэчнага і абразлівага дзеяння адразу чамусьці не можаш. Ганебнае, вартае жалю адчуванне! Штосьці падобнае я адчуў, калі чытаў артыкул М.Мінькова «Ждем «кого-то» из машины» ў газеце «Вечерний Минск» ад 5 студзеня.

Думаю, што аўтар падрыхтаваў цудоўны дапаможнік для журналіста-пачаткоўца на тэму «Псеўдапраблемны матэрыял і прафесійныя спосабы ягонай падачы». Асноўныя патрабаванні: мудрая сумнаватая іронія, некалькі лічбаў і дробных фактаў, шмат цытатаў з афіцыйных дакументаў з каментарамі, якія падштурхоўваюць чытача ў патрэбным накірунку.

Не ўтрымаюся, як і аўтар «Ожиданий «кого-то»..., ад банальнасцяў і сцісла паўтару сутнасць намаляванага канфлікту. Кааператыўнае кафэ «Узбекістан» арэндуе памяшканне ў цэнтры горада. За гэты час дом перайшоў у іншыя рукі, і новы гаспадар не працягвае дамовы арэнды, тэрмін якой заканчваецца ў красавіку гэтага года.

Аўтару вельмі захацелася дапамагчы «буревестнику» капитализации», як ён часта і міла называе кааператыўны пункт харчавання, захаваць за сабой абжытую тэрыторыю. Але задача ўскладнілася тым, што новым гаспадаром дома стаў Нацыянальны мастацкі музей.

Але знаўца ўзбекскай, кухні, зрабіўшы неабходную колькасць рэверансаў у бок «вечного искусства», падмацаваўшы свае пазіцыі напамінам, што «кушать хочется всегда», для пачатку прапануе чытачу немудрагелісты вінегрэт. У яго ўвайшоў шэраг агульнавядомых фактаў (назва кафэ, ягоны адрас), беглае выкладанне гісторыі кааператыўнага руху і вельмі асцярожная інфармацыя, якая тычыцца прававога боку пытання. У асноўным словамі «тогда же примерно...» ці «на то время приблизительно...». Шчодра паліўшы ўсё гэта соусам папулярнасці сярод іншаземцаў, прадстаўнікі якіх «стучались, и не однажды, в двери кафе после рабочего дня», знаўца смажанага бараняга боку вырашыў, што час пераходзіць да першай стравы.

Але замест традыцыйнага супу шурпа раптам «падае» вадкі булён з паўнамёкаў, запраўлены тлустымі цытатамі са смачнай канцыляршчынай: «... дать некоторые разъяснения в части противодействий мерам, направленным на прекращение...». Але ў гэтай «части разъяснения» наш «повар», пэўна, хітруе. Любы неперадузяты чытач гэткага «меню» заўважыць, што калі размова ідзе пра кафэ, то яно і «буревестник», і папулярнае, і, не зважаючы на час, корміць валютных гасцей. Калі ж аўтар адрывае ўлюбёны погляд ад кебаба, запечанага ў цесце, і пераводзіць гнеўныя вочы ў бок каварнага і злоснага музея, то ў ягоным голасе пазваньвае метал, які часам заглушае прававую негрунтоўнасць артыкула.

Нават з пачатковых какетлівых фраз ясна, што даўно існуе рашэнне Савета Міністраў Беларусі аб перадачы будынка музею. Музей валодае ім некалькі гадоў, але М.Мінькоў, прыжмурыўшыся, «сервирует»: «Ну, а что делать искусству в лице Художественного музея, считающего дом своим?..», «... он вправе... претендовать на миленькое здание...».

Але час пераходзіць да дэсерта. Таму я звяртаюся да Вас, пан М.Мінькоў: прызнайцеся, што Вы не былі ні ў ЖРЭА Ленінскага раёна, ні ў Савеце Міністраў, ні ў Міністэрстве культуры, ні ў Дзяржкаммаёмасці, ні ў выканкаме мясцовага Савета, нават у мастацкім музеі Вы не былі, хаця ўсе гэтыя арганізацыі згаданы ў тэксце артыкула. Вы падрыхтавалі гэты «лагман на уши читателей», не выходзячы з падсобкі кафе «Узбекістан»? Паразмаўляўшы з кааператарамі і пагартаўшы экземпляры іх перапіскі, Вы паміж пілавам і папрыкашам з маладога барашка берацеся меркаваць аб лёсе беларускага нацыянальнага мастацтва. Аб ягоным месцы і значэнні. Аб музеі, адзінай на нашай шматпакутнай зямлі унікальнай калекцыі, якая размешчана ў невыносных умовах!

Чаму Вас не зацікавіла, што ядуць мастакі, і ці ядуць яны яшчэ? І Вам не цікава, чаму памірае адзіная ў Беларусі кінастудыя — у недалёкім мінулым краса і гонар нашага народа? А куды зніклі фатаграфіі артыстаў беларускіх тэатраў, і чаму яны больш не ездзяць на гастролі? Дзе таўстыя літаратурныя часопісы, дзе маладая паэзія, куды ўсё гэта знікла?

Не, гэтай болі не зразумець, калі кухонны чад засціць вочы. Вы прыгатавалі «недоброкачественное заказное блюдо», змяшалі божы дар з яешняй. Не хавайцеся ж за аўтарытэт друкаванага слова, трымайце адказ за сваю «кулинарию».

**Віктар КАЛАШНІК, кінарэжысёр.**

# МІЛАСЭРНАСЦЬ

**Паважаныя чытачы газеты «Культура!**

**Заклікаю да міласэрнасці ў адносінах да інваліда МАКСІМЮКА Ігара Сцяпанавіча. Яму 36 гадоў, жыве ён у Пастаўскім раёне. Мы з маці пазнаёміліся з ім па перапісцы. 12 верасня 1992 года ў «Народнай газеце» была апублікаваная ягоная нататка «Сёння і здаровыя стогнуць, а што ўжо мне казаць». У допісу Ігар Максімюк распавядаў пра хваробу ног. Дыягназ: аблітэруючы эндатэрыіт. З такім захворваннем чалавек непрацаздольны. У гэтым годзе мы двойчы сустракаліся з Ігарам, ён прыязджаў у Мінск у сувязі з катастрафічным пагоршаннем здароўя і крызісным матэрыяльным становішчам сям'і. Хвароба прагрэсіруе, калі радыкальна не ўмяшацца — пагражае ампутацыя ног і не толькі гэта. Сацыяльная дапамога, якую ён атрымлівае як інвалід, складае 15 тысяч рублёў на месяц. Жонка зараз з'яўляецца беспрацоўнай (прадпрыемства не працуе), сыну 10 гадоў. Жывуць на хутары. Спадзявацца на чыюсьці матэрыяльную падтрымку практычна нерэальна.**

**На думку медыкаў, выратаваць Ігара Максімюка дапаможа лячэнне ў Германіі. Ёсць адпаведнае хадайніцтва Цэнтральнага праўлення Беларускага таварыства інвалідаў, у якім змяшчаецца заклік да ўсіх, хто спачувае, аказаць фінансавую падтрымку. Прыкладная сума, якая патрэбная зараз — 3 тысячы даляраў. Рэспубліканскі фонд міласэрнасці і здароўя адкрыў на імя Максімюка Ігара Сцяпанавіча разліковыя рахункі, на якія трэба пераводзіць сродкі для лячэння:**

**— валютны рахунак 000704001 у Белзнешэканомбанку код 226**

**— рублёвы рахунак у Гарадской дырэкцыі Белбізнесбанка код 764.**

**Адначасова, паважаныя суайчыннікі, звяртаю Вашу ўвагу на тое, што Ігару і ягонай сям'і патрэбная матэрыяльная дапамога. Жыць ім няма на што. Ваша пасільная дапамога грашыма, прадуктамі харчавання будзе апорай для сям'і.**

**Адрас Ігара Сцяпанавіча Максімюка: 211840, Пастаўскі раён, Ярэўскі сельсавет, Чыгуначныя казармы, 78-2.**

**Тэлефоны для даведак у Мінску: 24-66-95 (да 17 гадзін); 52-18-31 (пасля 18 гадзін). Праявіце спачуванне і чалавечую салідарнасць!**

**А.МАКАРАЎ, прарэктар Нацыянальнага інстытута гуманітарных навук.**

# ГАВАРЫЎ ПІСЬМЕННІК

БЫЛО...

АДБЫЛОСЯ гэта ў 1925 годзе. Я тады працаваў у камсамольскай арганізацыі вёскі Нямойча Сенненскага раёна. Летам нашу вёску наведаў Максім Гарэцкі. Беларусізацыя ў тыя гады ішла хуткімі тэмпамі, з вялікім энтузіязмам. Мы чыталі ўсё, што было напісана пра Беларусь, пра беларускі народ, ягоную гісторыю і культуру. Мы натхняліся паэзіяй і прозай беларускіх пісьменнікаў, добра ведалі творчасць і М.Гарэцкага. І таму сустрэлі аўтара любімых кніг з непадробнай радасцю.

У той час у Нямойчы функцыянавалі камуна, магазін, медычны пункт, камсамольская арганізацыя, школа, сельсавет, лікбез. Мы сабралі супрацоўнікаў усіх гэтых устаноў і арганізацый, усяго каля 60 чалавек, і М.Гарэцкі выступіў на агульным сходзе з прамовай.

Мне было 19 гадоў, і я з юначай прагай да ведаў слухаў кожнае слова любімага аўтара. Пісьменнік гаварыў пра цяжкую гістарычную долю нашага народа, які не раз абараняўся ад нападаў блізкіх суседзяў і далёкіх ворагаў. У мінулым беларусы змаглі стварыць высокую культуру. Ужо ў XII стагоддзі расцвілі літаратура, жывапіс, архітэктура. Выключна высокага ўзроўню дасягнула наша культура ў XV — XVII стагоддзях... Я ўпершыню, здаецца, слухаў такую глыбокую лекцыю на тэму, якая мусіла воляй лёсу стаць справай майго жыцця. Гарэцкі гаварыў пра характар беларусаў — іхняе міралюбства і цярплівасць, пра тое, што кожны грамадзянін вольнай Беларусі мусіць укласці ўсе свае духоўныя і фізічныя сілы, каб зрабіць краіну культурнай і адукаванай. А пачынаць ён раіў з самага, здавалася, простага — з ліквідацыі непісьменнасці. Цёпла і пранікнёна гаварыў пісьменнік і пра народную творчасць, фальклор. Ён сам збіраў песні, казкі і іншыя ўзоры народнай творчасці і заклікаў усіх да гэтай цікавай і карыснай працы. Ягоная прамова была сустрэтая дружнымі апладысментамі і мноствам пытанняў, на кожнае з якіх прагучалі падрабязныя адказы.

Потым выступалі прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі, у тым ліку і настаўнік Кузьма Голубеў. Ён гаварыў пра сяброўства А.Пушкіна з А.Міцкевічам, пра тое, што сяброўства вялікіх паэтаў сімвалізуе блізкасць культур трох народаў — рускага, беларускага і польскага. К.Голубеў у свой час вучыўся разам з М.Гарэцкім у Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Калі ў 1937 годзе Голубева арыштавалі, то адным з пунктаў абвінавачвання сталася «сувязь» з Гарэцкім — ворагам народа. У дадатак Голубева абвінавацілі і ў шпіянажы на карысць Польшчы, бо ён высока цаніў творы А.Міцкевіча. Голубеў загінуў у лагеры на поўначы Расіі...

Пасля выступу перад вясковым актывам Максім Гарэцкі некалькі дзён хадзіў па навакольных вёсках, запісваў песні, распытваўся пра абрады. Я расказаў яму, што стварыў піянерскі атрад у 120 чалавек і з'яўляюся важатым. Пісьменнік папрасіў мяне паклікаць піянераў і выступіў перад імі. Ён гаварыў, што трэба добра вучыцца, набірацца ведаў, каб прынесці вялікую карысць роднай Беларусі, што трэба шанаваць бацькоў, быць сумленным. Ён гаварыў так пранікнёна, што я пераканаўся ў ягоных незвычайных педагагічных здольнасцях.

У прыватнай размове я сказаў пісьменніку, што мая маці Феадосія Аляксандраўна і яе пяць сясцёр добра спяваюць народныя песні і ткуць адмысловыя посцілкі ды андаракі. Праз дзень я пайшоў далёка касіць. Прыбягае сястра Насця і кажа, што ў хату завітаў нейкі гарадскі чалавек. Я хуценька вярнуўся ў вёску. У хаце Гарэцкі па-свойску гутарыў з маёй маці. Усе разам мы паабедалі, а потым мама з сёстрамі спявалі песні, паказвалі дарагому госцю ўласныя тканыя вырабы. Маці расказала, як святкавалі ў нашым краі Вялікдзень, Купалле, Радаўніцу, Каляды. Гарэцкі доўга ўглядаўся ў посцілкі і ручнікі, вельмі высока іх ацаніў, сказаў, што гэта сапраўдныя творы мастацтва. Жанчыны вельмі ўзрадаваліся, пачуўшы чулыя словы. Але ўсе мы і здзівіліся, бо лічылі тыя посцілкі і ручнікі звычайнымі ўжытковымі рэчамі. Стаўшы ў 1934 годзе студэнтам маскоўскага Інстытута гісторыі, філасофіі і літаратуры (ИФЛИ), я неаднойчы згадваў словы М.Гарэцкага. Вывучэнню народнага мастацкага ткацтва я прысвяціў усё сваё жыццё. А выбар мне дапамаглі зрабіць добрыя разумныя словы пісьменніка...

Праз некалькі дзён Гарэцкі падараваў маёй маме адрэз тканіны. Яна пашыла блузку і з гонарам паказвала яе суседкам, гаворачы, што гэта падарунак вялікага чалавека.

Выступаў Гарэцкі і ў новым клубе перад вайскоўцамі, якія будавалі чыгунку Ворша-Лепель. Зноў я бачыў многа ўсхваляваных натхнёных твараў і адчуваў, як прамоўца валодае аўдыторыяй, як даносіць ён думку аб неабходнасці захавання беларускай культуры да душы кожнага простага чалавека. Пасля Гарэцкага выступіў камандзір роты Кураў, узялі слова іншыя. Але ўжо ў 1925 годзе адчуваліся парасткі сталінскай дэспатыі. На сцэну выйшаў палітрук А.Эйдлін і сказаў, што Гарэцкі і Кураў не ўлічваюць ленінскага вучэння аб партыйнасці мастацтва і культуры. Яны не сказалі, што росквіт культуры магчымы толькі пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі бальшавікоў, а таму зрабілі буржуазна-нацыяналістычную памылку. Эйдліну адказаў Кураў. Ён адзначыў, што М.Гарэцкі распавядаў пра Беларусь XV — XVII стагоддзяў, за чатыры стагоддзі да гэтага часу. Тады не магло быць камуністычнага партыйнага кіраўніцтва. Слухачы запляскалі ў ладкі і заўсміхаліся. Эйдлін мусіў пакінуць сход. Але той выступ каштаваў Кураву дорага. Эйдлін арганізаваў судовы працэс, і Кураву далі дзесяць год турмы, абвінаваціўшы яго, рускага з Архангельскай губерні ў буржуазна-кулацкім беларускім нацыяналізме, улічваючы і тое, што Кураў быў жанаты з папоўскай дачкой...

Падчас тых памятных сустрэч Максім Гарэцкі падараваў многім з нас свае кнігі па гісторыі беларускай літаратуры, хрэстаматыі, маленькія кніжачкі з п'есамі Галубка, Чарота.

А праз няшмат гадоў Максіма Гарэцкага, як і многіх лепшых людзей Беларусі, не стала. І дасёння нават у сталіцы нашай дзяржавы — Мінску няма помніка выдатнаму пісьменніку, гонару літаратуры. Няма абеліска на месцы, дзе ён загінуў, прыняўшы смерць пакутніка. І месца гэтае дакладна невядомае... Няма мемарыяльных дошак ні на клубе, дзе ён выступаў, ні на хаце, дзе ён спыняўся падчас той вандроўкі. Спадзяюся, што беларусы паставяць помнікі сваім апосталам.

**Міхаіл КАЦАР,**
**прафесар,**
**доктар мастацтвазнаўства.**

# ДЗЯКУЙ ЗА СПАГАДУ

## Нататкі фальклярыста

АМАЛЬ кожны год мне з групай студэнтаў-філолагаў даводзілася праводзіць вучэбную практыку па фальклоры ў розных раёнах Беларусі. Вось і зусім нядаўна пашчасціла пабываць на Бабруйшчыне, у вёсках Брожа, Ласі, Слабада і інш., якія, на думку работнікаў раённага аддзела культуры, найбольш багатыя традыцыйным песенным фальклорам. Яны не так далёка ад раённага цэнтра — дзесьці 25 — 30 км., але дзіўна, што ў гэтыя мясціны рэдка зазіралі збіральнікі фальклору. Можа, таму, разгаварыўшыся з намі і расчуліўшыся, загадчык аддзела культуры, «выдаў» нам «свой» аўтобус, каб дабраліся да месца. Як толькі мы прыехалі да «нашай» вёскі, усіх нас у адно імгненне расхватаравалі па хатах. І мы яшчэ раз пераканаліся ў гасціннасці нашага беларуса, яго шчырасці і дабрыні, яго заўсёдным клопаце пра дарожнага чалавека. На Бабруйшчыне нам пашчасціла запісаць шмат цікавага. Аднак, перш чым запісваць фальклор, спачатку знаёмішся з «інфарматарам». Нярэдка прыходзіцца выслухоўваць такія сумныя жыццёвыя гісторыі, што міжволі задумваешся, ці мееў права пытаннямі ўзрушваць душу чалавека. Вось і на гэты раз: жыццёвы шлях нашай гаспадыні зрабіў на мяне такое ўражанне, што захацелася падзяліцца яе апавяданнем з чытачом газеты. Не, не кідалася Ганна Нікіфараўна да кожнага сустрэчнага са сваім горам. Пры першым знаёмстве яна ціха і коратка адказвала на пытанні, пасля пачаставала вячэрай, і мы, стомленыя, леглі адпачываць. Назаўтра я даведаўся, што гэтая жанчына была ў канцлагеры ў Асвенцыме. Пры наступнай нашай сустрэчы, даверыўшыся нам, Ганна Нікіфараўна Тоўсцік (цяпер Ахрэмчык) расказала нам пра сябе. Нарадзілася яна ў гэтай жа вёсцы Ласі ў 1925 годзе. З сямі гадоў засталася без маці. Двое сірот: яна і яе брат Нічыпар, 1923 года нараджэння, жылі пры мачысе. У часы акупацыі Нічыпар разам з бацькам партызаніў, з прыходам Чырвонай Арміі пайшоў на фронт. Яе ж, Ганну, мачыху Арыну і яшчэ некалькі жанчын (у асноўным з партызанскіх сем'яў) у сакавіку 1944 г. немцы пагналі ў Германію.

На фронце Нічыпар быў кулямётчыкам і загінуў у баях пры вызваленні Заходняй Еўропы. Аднапалчане расказвалі, што ў апошнім баі кулямёт Нічыпара амаль да паўдня не змаўкаў, а пасля — заціх, і заціх назаўсёды. Ні кулямёта, ні кулямётчыка болей ніхто не бачыў.

«Аб сваім жыцці нават не хочацца ўспамінаць, — гаворыць Ганна Нікіфараўна, — тым болей, што нікому гэта не цікава і не патрэбна». Усім, маўляў, было нялёгка. «Спачатку, як забралі нас вясною 1944 г., — працягвае Ганна Нікіфараўна, — сем тыдняў трымалі ў бабруйскай турме, затым у адным з астрогаў Мінска, пасля загналі ў вагоны для жывёлы і павезлі ў Асвенцым. У Асвенцыме мы прабылі каля года (цяпер Ганна Нікіфараўна дакладна ўжо не памятае). Як мы жылі там і як нас застаўлялі працаваць, — лепей не ўспамінаць», — яна, нават праз столькі гадоў расказваючы гэта, залілася слязьмі. Можна толькі ўявіць сабе, як ёй жылося, калі яна, маладая дваццацігадовая дзяўчына, важыла тады ўсяго 20 кг. «Як мы выжылі, — невядома, — гаворыць Ганна Нікіфараўна, выціраючы на вачах слёзы, а на аголенай яе руцэ выразна прасвечваецца выпалены гарачым жалезам фашысцкі канцлагерны нумар «81511». — У Асвенцыме нават птушкі не жылі, — працягвае яна, — толькі ўдзень і ўначы гарэлі сем крэматорыяў. Відаць, Богам наканавана было мне ўсё ж выжыць. Баялася аднаго: каб не прыстрэлілі, бо тых, хто адставаў па нейкай прычыне (хутчэй за ўсё — недамагаў), прыстрэльвалі адразу на месцы, а таму старалася быць заўсёды побач з людзьмі».

«Сістэма» ў лагеры была такая: калі прыбываў чарговы эшалон з вязнямі, пачыналася «сарціроўка». Заганялі ўсіх спачатку ў так званую першую «лазню», дзе распраналі дагала, стрыглі, раздзялялі па ўзросце. Маладых развозілі па ўсёй Германіі для розных цяжкіх работ. Старыя ж падвяргаліся яшчэ адной «сарціроўцы». Тых, хто яшчэ мог працаваць, пасылалі ў лагеры, астатніх — у крэматорыі. Там усё было дасканала «адладжана». Чалавек павінен быў намачыць ногі ў нейкім мыльным растворы, які быў наліты ў спецыяльныя начоўкі, пасля ішоў далей. Але, ступіўшы на надзвычай слізкую падлогу з крутым нахілам, утрымацца на ёй ужо не мог — каціўся ўніз і зажыва падаў у распаленую печ. Гэты жудасны «канвеер» працаваў бесперапынна. За дзень спальвалі па 7 эшалонаў людзей.

«Памятаю, якраз на вадохрышча 1945 г. паднялі нас у 3 гадзіны ночы і пагналі няведама куды. Доўга пераганялі з лагера ў лагер. Нарэшце, дабраліся мы да Бухенвальда, затым —Лейпцыг, тады ганялі яшчэ тры дні па ўсёй Германіі. Пасля толькі мы даведаліся, што немцы не ведалі, куды з намі дзецца, паколькі Савецкая Армія і арміі саюзнікаў падыходзілі ўсё бліжэй. Пачалася вясна. Зусім знясіленыя, мы харчаваліся маладою крапівою і траўкаю. Памятаю, мне пашчасціла знайсці стары конскі капыт. Не магу вам сказаць, з якою радасцю я схапіла яго, а ў час прывалу падпякла з большага на агні і па драбочку адрывала і ела з вялікім смакам. Добра памятаю: было гэта 7 мая 1945 г. Ісці далей ад слабасці мы ўжо не маглі. Спыніліся каля нейкай вялізнай сцяны ўздоўж дарогі. Чаму нас не расстралялі, а проста кінулі — не ведаю дасюль. У хуткім часе пад'ехалі на веласіпедах нашы разведчыкі і сказалі, каб мы ішлі, куды хто хоча. З нашай Бабруйшчыны засталося ў жывых каля 12 жанчын, і мы пайшлі па дарозе, самі не ведаючы куды. Але неўзабаве падляцеў на матацыкле немец і злосна загадаў вярнуцца назад, а сам тут жа кудысьці знік. Наперадзе на дарозе мы ўбачылі коннікаў, якія махалі нам рукамі. Гэта зноў былі нашы разведчыкі. Нас накармілі, далі магчымасць адпачыць, а пасля адправілі на Эльбу, на перасыльны пункт. Вось тут мы вымыліся, нас усіх пераапранулі і адходжвалі аж да самага жніўня 1945 г., каб пасля мы самастойна маглі дабрацца дамоў. Прыехала я ў сваю вёску — ужо жалі ячмень. Разам са мной на Радзіму вярнулася і мая мачыха Арына. У сваёй вёсцы я выйшла замуж за франтавіка Федзю Ахрэмчыка, нарадзіла дзвюх дачок і сына. Але і тут лёс распарадзіўся па-свойму. Муж памёр. Дочкі маюць ужо свае сем'і. І жыву я цяпер з сынам, у якога не атрымалася сямейнае жыццё. Ад мясцовых улад не маю ніякіх ільгот. У Бабруйску ў райсабесе сказалі, што такія, як я, не маюць права на якія-небудзь ільготы».

Так і жыве на гэтым свеце добрая, сціплая і сумленная Ганна Нікіфараўна Ахрэмчык, носячы на руцэ выпалены гарачым жалезам канцлагерны нумар. А сэрца? Ці ж можа сагрэць яе параненую душу лозунг: «Ніхто не забыты і ніішто не забыта»?

Праводзячы мяне пасля доўгай нашай бяседы, Ганна Нікіфараўна ўсё паўтарала: «Дзякуй вам, дзякуй. За тое, што выслухалі мяне са спачуваннем». І пакуль я не схаваўся за паваротам, яна стаяла на вуліцы каля сваёй хаты, апранутая па-летняму ў калядныя маразы...

А колькі іх, сціплых, ціхіх беларускіх жанчын, што дажываюць свой век у вёсках! Няўжо да іх не павернуцца тварам тыя, хто па абавязку свайму павінен ім дапамагаць?

**Антон ГУРСКІ.**

# АМЕРЫКАНСКІ ПАРК У БЕЛАРУСКІМ СТЫЛІ




*Архітэктура парку, як і архітэктура ландшафту наогул, — гэта садружнасць такіх прыродных стыхій, як паветра, вада, зямля, зелень. Спалучэнне і ўзаемадзеянне гэтых кампанентаў у розных варыяцыях дае тыя непаўторныя вынікі, якія ўражваюць чалавека, — Версаль, пагоркі Паўлаўскага парку, паркавы ансамбль Нясвіжа...*

Ціхі прыгарад Чыкага — Алімпія Філдз, паважаны і рэспектабельны раён з насельніцтвам чатыры з паловай тысячы чалавек. Тут, у трыццаці кіламетрах ад цэнтра горада, сярод рэгулярных кварталаў двухпавярховай забудовы «застаўся» невялікі незабудаваны ўчастак у 10 гектараў, які Служба паркаў і адпачынку горада Чыкага вырашыла ператварыць у зялёны аазіс. Гэтае рашэнне сталася прычынай арганізацыі і правядзення Службай праектных конкурсаў універсітэта Мілуокі, штат Вісконсін, нацыянальнага конкурсу, які выліўся ў міжнароднае спаборніцтва ландшафтных праектаў «A New American Green» — «Новы амерыканскі парк».



Першая прэмія. М.Вайс, М.Манфрэдзі, Нью-Йорк

Журы конкурсу на чале з вядомым амерыканскім ландшафтным архітэктарам Грэдзі Клэем атрымала для разгляду 564 праекты з 10 краін свету. З іх былі адабраны 228. Геаграфія, такім чынам, значна звузілася: большасць адабраных праектаў была прапанаваная прадстаўнікамі чатырох амерыканскіх штатаў, пятнаццаць праектаў прадставілі канадцы, адзін быў дасланы з Аўстраліі і яшчэ адзін — з Беларусі. Прэміі атрымалі толькі дзевяць работ, адна з іх — наша. Першай прэміяй былі ўзнагароджаны ландшафтныя архітэктары з Нью-Ёрка М.Вайс і М.Манфрэдзі.

Трэцяя ганаровая прэмія была прысуджана нашаму суайчынніку, выпускніку Беларускай архітэктурнай школы Аляксандру Афанасенку. Ён у недалёкім мінулым — кіраўнік групы архітэктараў майстэрні добраўпарадкавання інстытута «Мінскпраект», а сёння — супрацоўнік аддзела ландшафтнай архітэктуры Камітэта архітэктуры Мінгарвыканкама.

Перад А.Афанасенкам стаяла галоўная задача: было неабходна разабрацца ў няпростай мясцовай сітуацыі і зрабіць годную праектную прапанову будучай зоны ціхага адпачынку з улікам патрабаванняў жорсткіх амерыканскіх стандартаў і нарматываў, бо вынікам конкурснага праекта мусіла стаць не проста ідэя, а цалкам канкрэтнае планіровачнае рашэнне, гатовае да рэалізацыі.

Умовы конкурсу прапаноўвалі аўтарам арганізаваць на месцы закінутай «фермы пачатку стагоддзя» — зону адпачынку. Задача ўскладнялася тым, што ў блізкім атачэнні знаходзілася яшчэ некалькі паркавых зон і спартыўных пляцовак. Неабходна было не толькі ўлічыць магчымыя патрабаванні жыхароў гэтага раёна, не толькі распрацаваць функцыянальна-планіровачнае і мастацкае рашэнне, але і абвясціць у сваім праекце нейкую ідэю-канцэпцыю. Добра, што наладжвальнікі конкурсу паклапаціліся аб забеспячэнні ўсіх удзельнікаў зыходнымі матэрыяламі і дадзенымі — горадабудаўнічыя сітуацыі, фотаздымкі мясцовасці, сацыяльны і дэмаграфічны склад насельніцтва.

Асноўная ідэя праекта, выкананага А.Афанасенкам, такая: стварыць на выдзеленай тэрыторыі некалькі зон. У цэнтры — грамадская зона, якая ўключае гістарычныя (па амерыканскіх мерках) будынкі, некалькі фермерскіх пабудоў пачатку стагоддзя, у тым ліку і жылы дом фермера. Гэтую зону, згодна з аўтарскай задумай, павінен быў акаймоўваць штучны ручай, які ў зімовы час можа выкарыстоўвацца ў якасці лёдавай дарожкі.

Па восі галоўнага ўвахода, прылягаючы непасрэдна да грамадскай зоны, размешчана зона правядзення асобых мерапрыемстваў — грамадскіх прэзентацый, канцэртаў, сустрэч, юбілеяў. Гэтая зона вырашана ў выглядзе адкрытага амфітэатра, створанага насыпным пагоркам і агароджанага дэкаратыўнымі сценкамі. Амфітэатр як бы рассякае і размяркоўвае патокі адпачываючых, скіроўвае іх на пляцоўкі ціхага адпачынку, якія прылягаюць да цэнтральнай часткі.

Уздоўж ручая размясцілася дзіцячая зона з вадаспадамі, аформленымі вялізнымі валунамі і вадаёмамі для плёхання ў цэнтры. Бліжэй да перыметра знаходзяцца пляцоўкі для гульні ў кракет, лужок для пікнікоў і спакойнага сямейнага адпачынку. Усе зоны парку спалучаюцца паміж сабой сістэмай прысад і сістэмай веладарожак.

Асноўнае тэхнічнае рашэнне, закладзенае ў праекце — шматразовае выкарыстанне вады ў замкнёным цыкле: вадзяная альтанка — пергала з фантанам і каскаднымі вадаспадамі дзіцячага гарадка для гульняў, штучны ручай, насосная станцыя і — цыкл замыкаецца. Гэта рашэнне было адзначана журы конкурсу. Парк робіць уражанне гарманічнага, добра прадуманага арганізма са спалучанымі паміж сабой, бездакорнымі кампазіцыйнымі дэталямі, цікавымі ландшафтнымі знаходкамі, усебакова ўзважанымі і пракрэсленымі.




Ганаровая прэмія. А.Афанасенка, Мінск

Гаворачы пра праект нашага земляка, які атрымаў трэцюю ганаровую прэмію, нельга пакінуць без увагі і аналізу праект, што атрымаў галоўную прэмію, распрацаваны, як ужо згадвалася вышэй, двума ландшафтнымі архітэктарамі з Нью-Ёрка — М.Вайсам і М.Манфрэдзі.

У пытаннях занавання тэрыторыі гэтыя два праекты маюць істотныя кропкі судатыкнення. Ёсць падабенства ў рашэнні ўваходнай зоны і ў форме ўключэння гістарычнай забудовы ў структуру плана. Асноўныя ж кампазіцыі ў рашэнні парку — розныя. Калі праект А.Афанасенкі прадугледжвае структуру аўтаномных і зрокава ізаляваных зон, то праект М.Вайса і М.Манфрэдзі выяўляе ідэю шырокіх, адкрытых прастораў. Менавіта гэтая канцэпцыя, што прапануе размяшчэнне некалькіх адкрытых палёў па цэнтры парку, аточаных з усіх бакоў зеленню, верагодна, заваявала сімпатыі журы сваёй узорнай адпаведнасцю прыродзе і назве раёна «Алімпійскія палі», да якога адносіцца парк. Вобраз метафарычных палёў у цэнтры парку стаў і навацыяй, і гістарычна апраўданым мастацкім вызначальнікам як для самога парку, так і для жылога раёна — сапраўднымі Алімпійскімі палямі.

Такія вынікі конкурсу і ўдзелу ў ім беларускага ландшафтнага архітэктара.

Можна згадаць і іншыя творчыя поспехі гэтага аўтара — удзел у многіх конкурсах і працах, у прыватнасці — у распрацоўцы экалагічнай рэканструкцыі ландшафту цэнтральнай зоны Гародні з пераўтварэннем абалоні ракі Гараднічанкі ў ланцуг абладжаных паркавых ландшафтаў, якія будуць прасякаць увесь горад. Гэты праект, выкананы аўтарскім калектывам у складзе ландшафтнага архітэктара А.Афанасенкі і інжынера-гідратэхніка Ю.Віннікава, атрымаў Сертыфікат Міжнароднага Саюза архітэктараў на міжнародным экалагічным форуме, што ладзіўся ў 1992 годзе ў Рыо-дэ-Жанейра пад эгідай ААН. Але згаданы праект, ягоная гісторыя і вынікі рэалізацыі — тэма для асобнай размовы.

**Вячаслаў АНГЕЛАЎ,**
**дацэнт БДПА,**
**кандыдат архітэктуры.**




Ганаровая прэмія. А.Афанасенка, Мінск

# ЭКСПЕДЫЦЫЯ

*Удзельнікамі гэтай незвычайнай вандроўкі былі Мікола Купава — мастак і кіраўнік экспедыцыі, гісторык Уладзімір Емяльянчык, мастак Яўген Кулік і журналіст Здзіслаў Сіцько, канцлер Згуртавання беларускай шляхты Лявон Акаловіч, сябра Беларускага згуртавання вайскоўцаў Алесь Несцяровіч, відэааператар Сяргей Чырык. Сябры аргкамітэта па святкаванні ў Беларусі 200-х угодкаў вызвольнага паўстання 1794 года, яны прайшлі па месцах баёў паўстанцкіх аддзелаў з расейскім войскам, наведалі родныя мясціны кіраўнікоў ды камандзіраў паўстання.*

*І вось што ўбачылі...*

**9 жніўня 1993 года, панядзелак**

Мястэчка Сталавічы. Тут, у цэнтры мястэчка, каля царквы агледзелі помнік, пастаўлены два гады таму з ініцыятывы Баранавіцкай Рады ТБМ і суполкі БНФ. Гэта вялікі камень-валун з металічнаю дошкаю. На ёй тэкст: «12/IX — 1771 тут адбылася бітва канфедэратаў гетмана М.К.Агінскага з войскамі А.Суворава», і ў самым нізе чамусьці па-польску: «Pokój ich duszom». Высветліць у местачкоўцаў магчымае месца пахавання палеглых у бітве не ўдалося...

Горад Слонім. Пісьменнік і мясцовы краязнаўца Васіль Супрун паказаў нам месца бітвы паўстанцкага аддзела пад кіраўніцтвам генерала Караля Серакоўскага з царскім войскам 2 жніўня 1794 года. Паводле ягонага расповяду, паўстанцы сутыкнуліся з расейскім корпусам на пляцы, які калісьці называўся Замкавым, а сёння носіць імя Льва Сапегі (назоў нададзены зусім нядаўна) ля касцёла Святога Андрэя.

Аддзел рухаўся з Ружанаў і перайшоў раку Шчару па адзіным на той час слонімскім мосце. На вуліцы Мастовай завязаўся бой. Паўстанцы некалькі разоў адыходзілі за мост і зноў авалодвалі ім.

Паводле меркавання сп.Супруна, палеглых паўстанцаў і расейскіх салдатаў маглі пахаваць у двух месцах. Побач з замчышчам (а яно прымыкала да Замкавага пляца) знаходзіліся старыя праваслаўныя могілкі, на якіх, верагодна, пахавалі праваслаўных. Гэтыя могілкі былі знішчаныя падчас будаўніцтва чыгункі, што перарэзала могілкі, а таксама і замчышча, якое тады было скапанае.

На Ружанскай вуліцы, па якой уваходзілі ў Слонім паўстанцы К.Серакоўскага, знаходзяцца старыя (і новыя) каталіцкія могілкі, на якіх маглі быць пахаваныя палеглыя паўстанцы.

Удзельнікі экспедыцыі вызначылі магчымае месца для ўстаноўкі помніка палеглым жаўнерам з аддзелаў Серакоўскага. Гэта пляц ля касцёла Святога Андрэя, адкуль калісьці адыходзілі тракты: Менскі, Пінскі, Моўчадскі, ён жа Віленскі, Замкавая вуліца, пазней названая Мастовай, за якой пачынаўся Дзярэчынскі тракт. Пляц даволі прасторны, пасярод яго кветнік. Навідавоку мост, які штурмавалі паўстанцы. Сам касцёл нарэшце дачакаўся для сябе лепшых часоў і грунтоўна рэстаўруецца.

Мястэчка Ружаны. Агледзелі замак Сапегаў. Адзін з прадстаўнікоў гэтага славутага роду — Францішак — напачатку браў удзел у паўстанні, але потым адышоў ад яго, не прыняўшы прапанаваную яму высокую кіраўнічую пасаду.

Унікальны палацавы комплекс — у вельмі кепскім стане і вымагае неадкладных і грунтоўных дзяржаўных высілкаў па яго рэстаўрацыі. Сёння тут працуе (?) восем рабочых, і для аднаўлення комплексу спатрэбяцца не 15 запланаваных гадоў, а стагоддзі, калі ўжо і аднаўляць не будзе чаго, усё сатрэцца ў пыл.

Мястэчка Косава. Былая вуліца Чырвонаармейская рашэннем пасялковай рады сёлета перайменаваная і называецца цяпер вуліцай імя Т.Касцюшкі. Жыхар Косава сп.Яўген Акавіты, механік мэблевай фабрыкі, паказаў нам мейсца, дзе стаяў фальварковы дом у Мерачоўшчыне, у якім нарадзіўся Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка. Гэта побач з Косаўскім замкам, пабудаваным пазней за сядзібу (1838 г.).

Касцюшкаўскі дом быў спалены ў 1944 годзе партызанамі. Цяпер на мейсцы сядзібы пакладзены дробненькі, невыразнай формы каменьчык з нязграбна замацаванай на ім маленькай шыльдачкай, на якой напісана па-расейску: «В доме, стоявшем на этом месте, в 1746 году родился Т.Костюшко — видный политический деятель Польши». Да Беларусі, аказваецца, ні гэтае мейсца, ні гэтая асоба аніякага дачынення не маюць! Вось так.

Аглядаем усё, фатаграфуем. Мастакі — удзельнікі экспедыцыі — спрабуюць вызначыць кропку, з якой Напалеон Орда зрабіў вядомы малюнак фальварковага дома. Слухаем мясцовых жыхароў.

Сп.Акавіты распавёў нам, як дапамагаў ставіць гэты камень. Паводле ягоных словаў, калі з візітам у СССР быў Ярузэльскі, то пажадаў, каб было адпаведным чынам пазначанае мейсца нараджэння нацыянальнага героя Польшчы. Тады раённае начальства загадала знайсці камень і прывезці яго ў Мерачоўшчыну. З Івацэвічаў прывезлі і гатовую мемарыяльную дошку. Пазней далі загад абгарадзіць мейсца. Сп.Акавіты паводле абрысаў рэшткаў падмурку паставіў жалезныя слупкі і злучыў іх ланцугамі. А вось фрагмент аповяду сп.Алеся Зайкі, настаўніка з вёскі Заполле Івацэвіцкага раёна, дапытлівага краязнаўцы, шчырага прыхільніка беларушчыны: «... Пакуль я паехаў шукаць прыстойнага валуна, прыехалі з раённага аддзела культуры, узялі гэты каменьчык, паставілі, тэкст таксама ў Івацэвічах напісалі. А той валун, што я



знайшоў, стаіць цяпер у Бялавічах... Тая ж будыніна на выспачцы пасярод става (паказвае на цагляныя руіны недалёка ад сядзібнага падмурка) цагляная, як гаварылі, пральня была, драўляныя пабудовы ўсе згарэлі... Дэндралагічны парк тут быў (каля замка), засталіся толькі лістоўніцы. Парк быў знішчаны пасля вайны, людзі дрэвы пілавалі...» Сп.Акавіты дадае, што колісь турысты прыязджалі, мералі — шэсць-сем чалавек становіцца і не могуць абхапіць... Хто пілаваў? — Камбінат (Косаўскае мэблева-вытворчае аб'яднанне).

Ад усяго пабачанага тут патыхае дрымучым правінцыялізмам, бескультур'ем, абыякавасцю да памяці... І гэтая абразлівая «мемарыялізацыя», і разбураны, загаджаны, занядбаны замак побач... А тлом усяму гэтаму — буянне цудоўнай нашай прыроды, прывабны, маляўнічы краявід... Крыўдна, балюча... Патрэбныя рашучыя дзеянні, тэрміновыя захады, каб годна, належным чынам мемарыялізаваць гэтае святое мейсца: да 250-годдзя Т.Касцюшкі (1996 г.) аднавіць сядзібны комплекс і зрабіць у ім ягоны мемарыяльны музей, адрэстаўраваць і з розумам прыстасаваць Косаўскі замак; рашуча, настойліва аднаўляць гістарычную праўду;ператварыць гэты куток нашае зямлі ў нацыянальную святыню, у вядомы кожнаму беларусу асяродак нашае гісторыі і культуры.

Надвячоркам экспедыцыя, заехаўшы ў в.Бялавічы, агледзела тамтэйшыя могілкі — на іх пахаваны ўраджэнец гэтай вёскі, вядомы беларускі ўрач, гісторык і літаратар Міхал Гамаліцкі (1791 — 1861). Дарэчы, для ягонага надмагілля скарыстаны той камень, што сп.Зайка адшукаў для сядзібы ў Мерачоўшчыне. На могілках стаяць старажытныя каменныя крыжы з неразборлівымі лічбамі ці то XVII ці то XIX стагоддзя. На начлег экспедыцыя спынілася ў в.Заполле, пакарыстаўшыся гасціннасцю сям'і Зайкаў. Сам гаспадар, дарэчы, рашыў далучыцца да нашай вандроўкі на ўвесь астатні маршрут.

**10 жніўня, аўторак**

Горад Бяроза. Агледзелі руіны кляштара картэзіянцаў, манахі якога, паводле легенды, у час паўстання нібыта перадалі Касцюшку мільён злотых на паўстанне. Кляштар ляжыць у руінах, больш ацалелі брама і будынак шпіталя ды дзве вежы, і чакае хаця б грунтоўнай кансервацыі і сапраўднай аховы з боку дзяржавы, а ў бліжэйшай перспектыве рэстаўрацыі.

Вёска Залессе Кобрынскага раёна. Гэтую вёску вырашылі наведаць з парады сп.Зайкі. І не дарэмна... У цэнтры яе, на агароджанай штыкетнікам пляцоўцы перад управаю калгаса імя Суворава, устаноўлены бюст расейскага генералісімуса, памаляваны ў чорны колер. Тут жа, ля ўправы, нас насцярожана і не вельмі прыязна сустрэў старшыня калгаса сп.Сяргей Ашмянцаў (родам са Смаленшчыны). У яго кабінеце, пад партрэтам Леніна, каля паліцаў з тамамі Леніна і «Капітала» Маркса адбылася нашая бяседа. Паведамленне пра стварэнне Нацыянальнага аргкамітэта па святкаванні 200-х угодкаў паўстання 1794 г. і мэты экспедыцыі сп.Ашмянцава (было відавочна) не ўсхвалявала і не натхніла. Ён упершыню, ад нас, даведаўся, што Тадэвуш Касцюшка родам з гэтых мясцінаў, што тутэйшыя сяляне — продкі сённяшніх калгаснікаў — актыўна ўдзельнічалі ў паўстанні, баранілі сваю зямлю ад захопнікаў-расейцаў, аддаючы свае жыцці ў бітвах з войскам Суворава. Старшыня ўсё жыццё ведаў Суворава як вызваліцеля Беларусі. Што да назову калгаса і помніка, то ён, старшыня, хацеў бы, каб наконт гэтага паступіла афіцыйная папера. Увогуле ж сёння такія праблемы ў гаспадарцы, цяжкасці з тэхнікай, палівам. Канешне, толькі калі будзе калгаснік культурным, то будзе ў нас усё, бо ўсё ўзаемазвязанае. На гэтае меркаванне старшыні ўдзельнікам экспедыцыі засталося толькі давесці сп.Ашмянцаву ісціну, што культура і пачынаецца з ведання і шанавання роднай гісторыі. Развітанне было ўсё ж больш прыязным, чым сустрэча.

Горад Кобрын. На сённяшні дзень ён, безумоўна, эпіцэнтр распаўсюджання культу Суворава на Беларусі. На вуліцы Суворава, што вядзе ў парк імя Суворава, размешчаны вайскова-гістарычны музей імя Суворава, фактычна мемарыяльны музей палкаводца. Перад музеем — ягоны бюст, у вестыбюлі — другі, велізарнага (як толькі змясціўся!) памеру. У цэнтры парку — яшчэ адзін бюст-помнік Сувораву. І пры ўездзе ў Кобрын з боку Берасця, на разгалінаванні вуліц — чацвёрты помнік Сувораву, ужо ў поўны рост, у ганарлівай паставе, з аголенаю шпагаю ў руцэ. Музей усе гады існавання (з 1948 года) са згоды і падтрымкі ўладаў ажыццяўляе неўтаймаванае ўхваленне расейскага военачальніка — ворага і ката Беларусі, фактычна вядзе прарасейскую прапаганду. Нездарма экспазіцыя і фонды музея ўкамплектаваныя каштоўнымі аўтэнтычнымі экспанатамі з буйных расейскіх збораў. Нездарма побач з існуючым пабудаваны шыкоўны мадэрновы, у некалькі паверхаў будынак для музея імя Суворава. Знайшліся патрэбныя сродкі на яго ў час, калі нават Дзяржаўны гістарычны музей Беларусі гібее ў страшэннай цеснаце і нястачы. І гэты новы будынак прадастаўляецца пад зборышчы і «круглыя сталы» (прыкладам, 17 жніўня сёлета) розных антыбеларускіх сілаў, праціўнікаў нашае дзяржаўнасці, нашай мовы, культуры і гісторыі.

Удзельнікі экспедыцыі праслухалі экскурсію па залах музея (праводзіў сп.Яўтушык). Нават ва ўмовах, калі экскурсавод з зададзеных яму пытанняў «вылічыў» нашую беларускую скіраванасць, адчувалася прарасейская арыентацыя, ігнараванне «беларушчыны». Чаго было вартае ягонае бездапаможнае тлумачэнне тэрміна «літоўцы» ў дачыненні да беларускага паўстанцкага войска, альбо «глыбакадумныя» разважанні пра неабходнасць захавання помнікаў і музея Суворава на нашай зямлі, маўляў, у Швейцарыі на адным пляцы могуць суіснаваць помнікі военачальнікам варожых арміяў. Дарэчы, сродкі на паездку ў Швейцарыю, дзе праводзілася сустрэча музейшчыкаў сувораўскіх музеяў розных краінаў, знайшліся, і Кобрынскі музей імя Суворава быў там таксама прадстаўлены.

Увогуле ад расповяду сп.Яўтушыка склалася ўражанне, што мы знаходзімся на радзіме Суворава, а не Тадэвуша Касцюшкі.

Вёска Чыжэўшчына. Вёскі Крупчыцы цяпер няма, яна злілася з суседняй і паселішча называецца Чыжэўшчына. Прыпыніліся амаль у канцы вёскі, каля невысокага стандартнага абеліска, на якім умацавана мемарыяльная дошка з надпісам на расейскай мове: «На здешних Крупчицких полях 6 сентября 1794 г. русскими войсками под командованием великого русского полководца А.В.Суворова был разбит корпус генерала Сераковского». Дарэчы, у Кобрынскім музеі ў экспазіцыі выстаўлена бронзавая дошка, на якой такі ж надпіс. Паспрабавалі канкрэтызаваць мейсца бітвы. Паводле звестак, у ваколіцах вёскі расце так званы Дуб Суворава. Даведаліся, як праехаць да дуба: з канца вёскі дарогаю праз лес да рэчкі Трасцяніцы. Ніякага дуба на шырокім поплаве перад рэчкай не ўгледзелі і ў суправаджэнні хлапчукоў-рыбаловаў перайшлі па кладцы на другі бераг, а дакладней — па шырокім швелеры. Вясковая кабета паказала на гурбу рудога лісця і паведаміла, што дуб зламаўся і ўпаў. «Дуб Суворава» ляжаў на ўзлеску маладога хвойніка. Ад ахоўнай агароджы ацалеў адзін бетонавы слупок, падмяты магутным дубовым галаменем. Дубовага пня амаль няма, відаць, ён калісьці быў выпалены, а каб неяк умацаваць дуб, выпаленую частку заклалі цэглай і замазалі. Галамень дуба мы не абмервалі, але бясспрэчна, што гэта быў сапраўдны волат, магчыма, сучаснік падзеяў 1794 года.

Жанчына, што паказала нам зламаны дуб, правяла нас і да кургана ў лесе, у якім, улічваючы блізкасць да мейсца падзеі, маглі быць пахаваныя палеглыя ў бітве. Курган доўгі, прыкладна 40 крокаў, і шырынёю каля 5 крокаў. Але найбольш верагодна, што гэта старажытны археалагічны помнік.

У вёсцы мы агледзелі мейсца, дзе калісьці быў кляштар кармелітаў. Цяпер тут стаіць мураваная праваслаўная царква ў псеўдарасейскім стылі (1894 г.). Паводле звестак, каля кляштара хавалі палеглых паўстанцаў. Непадалёку ад царквы знаходзяцца старыя могілкі, на якіх ад 1947 года нікога не хаваюць. Вясковец сталага ўзросту, які жыве побач з могілкамі, не мог нічога пэўнага паведаміць пра гэтыя могілкі. Але ён правёў нас на мейсца старых каталіцкіх могілак, што побач з вясковай вуліцай і бліжэй да сярэдзіны вёскі. Цяпер там толькі адна агароджаная магіла. Гэтыя могілкі былі пры касцёле. Касцельны цвінтар, відаць, быў абсаджаны ліпамі. Некалькі ліпаў і цяпер утвараюць прысады, хоць і засталося іх няшмат. Адна з ліпаў вельмі старая і магутная, у два ці ў тры абхопы. Убаку ад могілак, дзе цяпер стаіць хата з белай цэглы, была, прынамсі, яшчэ ў 1947 годзе капліца. (Паводле словаў кобрынскага экскурсавода Яўтушыка менавіта каля капліцы былі пахаваныя паўстанцы.)

Самое мейсца былых каталіцкіх могілак

вельмі адпаведнае для пабудовы тут помніка ці мемарыяльнага знака паўстанцам.

Зразумела, неабходна тэрмінова замяніць існуючы казённы абеліск з ілжывым, абразлівым тэкстам на арыгінальны мемарыяльны знак з праўдзівымі словамі. Вядома, што ў гэтай бітве паўстанцы не былі разбітыя: праз дзень адбылася яшчэ адна бітва — пад Берасцем.

**Вёска Малыя Сяхновічы.** За ліпавымі прысадамі месціцца школа:



драўляны аднапавярховы будынак, а перад ім — бюст Тадэвуша Касцюшкі, выкананы ў 1930 годзе польскай скульптаркай Альбінай Відоцкай, пра што сведчаць яе ініцыялы: A.W. Даўней, «пры Польшчы», гэты бюст нібыта стаяў у Кобрыне, на месцы разбуранага польскімі ўладамі расейскага помніка ў гонар вайны 1812 года. Пасля вайны савецкай уладай ён быў скінуты і захоўваўся ў Берасцейскім музеі.

Усе спробы знайсці старэйшых жыхароў вёскі, якія б дапамаглі даведацца, дзе стаяла сядзіба Касцюшкаў, былі марнымі. Складвалася ўражанне, што тут раней ніхто не жыў, а тыя, у каго мы пыталіся, адказвалі, што яны жывуць у вёсцы нядаўна. Параілі звярнуцца да настаўніцы сп.Каліноўскай, якая быццам бы праводзіць экскурсіі для прыезджых палякаў.

Вёска Малыя Сяхновічы, верагодна, тая вёска, пра якую чытаем у адным дакуменце пачатку XVI ст.: «Біў нам чалом дзяк наш Касцюшка Фёдаравіч і прасіў у нас сяльца ў Камянецкім павеце... на імя Сяхновічаў». Просьба была задаволена: «Жыгімонт Божаю міласцю кароль польскі, вялікі князь літоўскі, рускі, княжа прускі, жамойскі і іншых» у 1509 годзе аддае Касцюшку Хведаравічу, пісару вялікакняскай канцылярыі, сяло Сяхновічы. Патрэбныя грунтоўныя архіўныя і натурныя росшукі пра Сяхновічы дзеля магчымага аднаўлення сядзібы і яе мемарыялізацыі.

Позна ноччу экспедыцыя вярнулася ў Менск.

Пасля дзённага вымушанага перапынку ў Менску (у пошуках бензіну) экспедыцыя накіравалася на поўнач Беларусі.

### 12 жніўня 1993 года, чацвер

**Горад Паставы.** Тут экспедыцыя агледзела забудову былога рынку (цяпер пляц Леніна з адпаведным помнікам), дзе захавалася некалькі старажытных будынкаў 80-х гадоў XVIIIст., і былы палац Тызенгаўза, у якім месціцца шпіталь. У Паставах, на гэтым пляцы, як і ў шмат якіх беларускіх гарадах і мястэчках, падчас паўстання 1794 года падпалкоўнік Тадэвуш Гарадзенскі праводзіў набор ахвотнікаў у паўстанцкае войска. Сп.Емяльянчык праілюстраваў гэтыя падзеі красамоўным аповядам.

Удзельнікі экспедыцыі наведалі і мясцовы краязнаўчы музей, які якраз памяняў экспазіцыю і пакуль што зачынены для наведнікаў: для гасцей з Менску было зроблена выключэнне. Ніякіх дакументаў ці экспанатаў, што тычыліся б паўстання 1794 года, у музеі няма.

У рэдакцыі раённай газеты «Пастаўскі край» сябры аргкамітэта гутарылі з рэдактарам сп.Курыловічам і перадалі яму тэкст «Звароту»... для публікацыі.

**Мястэчка Відзы.** У пачатку мястэчка, на рагу вуліц Леніна і Пушкіна, на заднім двары харчовай крамы знаходзіцца магіла Тамаша Ваўжэцкага, аднаго з кіраўнікоў паўстання 1794 года на Беларусі і Жмудзі, заступніка Тадэвуша Касцюшкі на пасадзе галоўнакамандуючага. На магіле — пліта з надпісам «Томаш Вовжецкий. 1754 — 1816». У размове з жыхарамі высветлілі, што цяпер надмагілле знаходзіцца не над сапраўднай магілай. Магіла была бліжэй да крамы і галавой скіраваная ў бок крамы, а цяпер надмагілле пастаўлена ўпоперак, па-за магілай. Перасунута яно было, відаць, у сувязі з пабудовай крамы. Тут раней стаяла капліца (ці касцёл), вакол бажніцы была агароджа — невысокі тын з каменю. Тут жа былі могілкі. Жанчына-старaверка сп.Харлампіева паведаміла, што на магіле ляжала жалезная пліта, памерам на ўсю магілу, і стаяў крыж, які і цяпер пастаўлены ў галовах надмагілля. На пліце быў надпіс, але не па-польску (яна сама польскай мовы не ведае, але «ўсе так гаварылі, што не па-польску»). Капліца была вымураваная з каменю, дах бляшаны. Яна памятае, што там яшчэ маліліся. Жанчына параіла нам звярнуцца да старшыні мясцовага пасялковага савета, а крамарка назвала нам яго прозвішча: Рабіза Георгій Васілевіч.

Мы паехалі ў пасялковы савет, але, відаць, прамінулі яго, бо больш глядзелі на велічны Відзаўскі касцёл, каля якога і





прыпыніліся. Каля касцёла напаткалі 82-гадовую Ядвігу Вялічка, якая жыве ў Відзах з 1955 года, недалёка ад месца пахавання Ваўжэцкага, на вуліцы Пушкіна, 71. Яна паведаміла, што чыгунную пліту з магілы Ваўжэцкага разбілі, а піянерважатая (імя і прозвішча сп.Вялічка ведае, але нам не сказала) здала на металалом. Гады тры таму нібыта быў артыкул пра гэта ў Браслаўскай раённай газеце.

Надпісу на пліце сп.Вялічка не памятае, але зроблены ён быў на лаціне. Яна ж распавяла, як выратавала крыж з магілы Ваўжэцкага і разам з мужам, арганістам Відзаўскага касцёла, схавала на могілках. А калі на новую магілу зрабілі надмагілле замест знішчанага, то яна паведаміла пра крыж і яго паставілі каля надмагілля.

Безумоўна, што цяпер возьмеш з тых, паводле чыйго загаду і чыімі рукамі нішчылася капліца, перасоўвалася магіла, разбівалася надмагілле. І з якою мэтаю гэта рабілася? Каб пабудаваць на святым месцы харчовую крамку? Не, свядома здзяйсняўся злачынны акт вандалізму і супраць нашай духоўнасці, і супраць гістарычнай памяці, і супраць культуры.

Да 200-х угодкаў паўстання 1794 года трэба вартасна ўшанаваць памяць нашага слаўнага земляка-змагара за волю Бацькаўшчыны, дакладней, вярнуць на сапраўднае месца яго магілу. Дзеля гэтага абавязкова зліквідаваць адсюль краму, зрабіць высокамастацкае арыгінальнае надмагілле-помнік, стварыць комплексны праект уладкавання і архітэктурна-мастацкага вырашэння ўсяго ўчастка на разгалінаванні відзаўскіх вуліц Леніна і Пушкіна, пераназваць іх, надаць вуліцы Леніна імя Тамаша Ваўжэцкага.

**Вёска Відзы Лаўчынскія.** Тут захаваўся палац Ваўжэцкіх, у якім цяпер месціцца школа, і гаспадарчая забудова спадчыннага маёнтка: свірны, стайня, абора. Сядзіба захавалася адносна нядрэнна, але відавочнае яе занядбанне. Яна знаходзіцца па-над невялікім маляўнічым возерам, на жаль, атручаным шкоднымі адкідамі з бровару.

Зразумела, сядзіба (будынкі, парк) патрабуюць рэстаўрацыі і мемарыялізацыі. Маёнтак гэты можа стаць выключна цікавым гісторыка-культурным турыстычным аб'ектам з улікам яшчэ і таго, што знаходзіцца непадалёку ад Браслава.

Канчаўся дзень і нeставала часу і магчымасцяў, каб, пашырыўшы маршрут падарожжа, пачаць пошукі маёнтка Лушнеў (паводле не зусім пэўных звестак — у Браслаўскім павеце, ля возера Дрысвяты), дзе жыў і пахаваны яшчэ адзін удзельнік паўстання 1794 года — Язэп Копаць. Даводзіцца адкласці гэта на будучае...

Начаваць вырашылі ў вёсцы Вайшкуны, дзе трывала асталявалася група менскіх мастакоў, стварыўшы там своеасаблівы беларускі «Барбізон». Па дарозе, у вёсцы Камаі, аглядалі і захапляліся веліччу і адметнасцю унікальнага мураванага абарончага касцёла пачатку XVII стагоддзя. Касцёл адрамантаваны, палепшана магчымасць агляду помніка з самых выразных кропак. Захапляліся і манументальным старажытным каменным крыжам, які стаіць праз вуліцу насупраць касцёла.

### 13 жніўня 1993 года, пятніца

**Вёска Паляны.** Магчыма, дзесьці тут, у яе ваколіцах (на Ашмяншчыне некалькі аднайменных вёсак і патрэбную неабходна знайсці) 7 траўня 1794 года адбылася вялікая бітва паўстанцаў пад камандаваннем генерала ВКЛ Якуба Ясінскага з расейскім аддзелам палкоўніка Дзеева. Паўстанцы перамаглі. Удзельнікі экспедыцыі найперш накіраваліся ў Палянскую школу, спадзеючыся, што, можа, там ёсць школьны музей, у якім могуць быць нейкія сведчанні пра мейсца бітвы. Але ў школе (няпоўнай сярэдняй) музея няма, яе дырэктар нават нічога не ведае пра бітву. Затое былы механізатар спадар Іван Заянчкоўскі, які цяпер працуе ў школе, распавёў нам, што шмат гадоў таму на Бароўскай гары яны бралі жвір і экскаватар натыкнуўся на чалавечыя косткі. Тады яны пакінулі гэты кар'ер і пераехалі ў іншае мейсца. Чарапы і іншыя косткі пакінулі там жа. І многа чарапоў там было, можа з дваццаць...

**Мястэчка Солы.** Каля гэтага мястэчка адбылася другая пасля Палянаўскай бітва паўстанцаў пад кіраўніцтвам Якуба Ясінскага. Мейсца бітвы не вызначана. Невядомае і мейсца пахавання палеглых паўстанцаў. Гутарка з прадстаўнікамі мясцовай улады, якія зычліва паставіліся да ўдзельнікаў экспедыцыі, на жаль, не дапамагла высветліць неабходныя пытанні.

**Вёска Залессе, Смаргонскі раён.** Наведалі сядзібу Міхала Клеафаса Агінскага, выдатнага кампазітара, актыўнага ўдзельніка паўстання 1794 года. Неабходна было даведацца пра сённяшні стан палаца ды іншых пабудоў, дзе колькі гадоў ужо цягнуцца рэстаўрацыйныя работы. Але сустрэлі мы тут цішыню і «мярзоту запусцення». Відаць было, што тут не вельмі спяшаюцца. Да гэтага часу адноўлена толькі сядзібная каплічка Агінскіх, млын ды «зляпаная» варварскім чынам муроўка альтанкі ў парку. Парк у неймаверна запушчаным, здзічэлым стане.

Узрушаныя, стаялі і маўчалі ў парку каля каменю з надпісам «Ценям Касцюшкі», адзіным помніку паўстанцам 1794 года на Беларусі.

Камень «Ценям Касцюшкі» ляжыць, яго аглядаюць пераважна пацыенты прафілакторыя, пабудаванага побач з сядзібным садам, айчынныя «касцельныя палякі» (у адноўленай сядзібнай капліцы працуе нядзельная школка для іх дзетак — зразумела, з польскай мовай і арыентацыяй) ды групы ваяжораў з Польшчы, якія дазваляюць сабе актыўна засведчваць «польскую» прыналежнасць гэтага мейсца. Адну з такіх памятак мы пабачылі наяве. На адпаведнай, ахоўнай тэрыторыі сядзібы, дзе забаронена любое самавольнае будаўніцтва і хоць якія змены яе аўтэнтычнасці, нейкая місія з Польшчы, што знаходзілася тут з 29.09 да 3.10.92 года, блізу палаца і капліцы, на самым відочным мейсцы паставіла крыж —"памятку" гэтай місіі, сціпла назваўшы сябе на табліцы на крыжы — «Salezjonie». Мяркуем, што гэтыя ды іншыя такога кшталту «памяткі» з тэрыторыі запаведнай сядзібы павінны быць прыбраныя.

**Мястэчка Крэва.** З Залесся наша экспедыцыя рушыла ў кірунку на Валожын і ўжо ўвечары прыбыла ў Крэва — старажытнае крывіцкае паселішча з руінамі Альгердавага замка.

Тут пасля паразы 16 чэрвеня 1794 года, якой закончыўся рэйд паўстанцаў па Меншчыне, спыніўся аддзел Міхала Клеафаса Агінскага. Менавіта тут, у Крэве, знаходзіўся штаб паўстанцкага генерала Якуба Ясінскага.

Агледзелі ссівелыя замкавыя руіны. Княская вежа раскапаная да скляпенняў — у замку працуюць менскія археолагі.

Мясціны на Меншчыне і Магілёўшчыне, звязаныя з паўстаннем 1794 года (а гэта Івянец, Ракаў, Койданава, Свіслач, Асіповічы, Пухавічы, Бабруйск, Глуск, Любань ды шмат іншых), засталіся па-за нашай увагай. Спадзяёмся, ненадоўга...

**Нататкі падрыхтавалі Яўген КУЛІК і Здзіслаў СІЦЬКО.**

---

*На здымках:*

1. Мястэчка Сталавічы. Помнік жаўнерам Барскай канфедэрацыі.

2. Відзы. Магіла Тамаша Ваўжэцкага (сучасны стан). Справа — будынак прадуктовай крамы, збудаванай на месцы сапраўднай магілы.

3. Поле за вёскай Паляны. Напэўна, тут быў пераможны бой паўстанцаў Якуба Ясінскага з расейскімі войскамі.

4. Дуб, якога савецкія краязнаўцы залічылі ў сведкі сувораўскіх «геройстваў».

**Здымкі Яўгена Куліка.**







**ВІНШУЕМ!**

*З 70-годдзем*

**ПАРАЖНЯКА Тараса Мікалаевіча** — *мастака дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.*
**БЯЛЯЎСКАГА Васіля Мікалаевіча** — *мастака-жывапісца.*
**САДЗІНА Уладзіміра Сцяпанавіча** — *заслужанага дзеяча мастацтваў, мастака-графіка.*

*З 60-годдзем*

**ДЗЯНІСАВА Генадзя Іванавіча** — *мастака-графіка.*

*З 50-годдзем*

**КАРПЕНКУ Аляксея Мікалаевіча** — *мастака-ювеліра.*
**ЯСЮКАЙЦЯ Антона Аляксандравіча** — *мастака-акварэліста.*

***«Жанчына ў мастацтве»* — выстава пад гэтым дэвізам, прысвечаная святу 8 сакавіка, праходзіць сёння ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі. Але ўпершыню ўдзел у падобнай выставе прымаюць не толькі нашы мастакі-жанчыны. Традыцыя была парушана пад націскам грамадскага пажадання: мужчыны падрыхтавалі прысвячэнне Жанчыне, песню пра яе і вясну. Цяпер гэта ўсё можна ўбачыць і пачуць у Палацы мастацтва, а таксама далучыцца да гэтай прыгажосці...**





## АД РЭАЛЬНАСЦІ — ДА СІМВАЛА

«Усе гліны паходзяць са скал», — некалі адкрылі ў Еўропе першыя вучоныя натуралісты. Сваю першасную прыроду быццам «узгадала» кераміка Тамары Сакаловай: яе кампазіцыі незвычайна манументальныя. Пераканаўчыя мастацкія формы актыўна будуюць вакол сябе прастору, вяртаюць гледача да «першых дзён Стварэння», калі яшчэ не былі падзелены свет арганічнага быцця і каменя. У творчасці Сакаловай ён паўстае з усёй выразнасцю архаікі.

Таямнічая сувязь народных звычаяў і жыццёвай сілы прыроды раскрываецца ёю ў серыі «Святкі». Гэта не толькі вяртанне да фальклорных вытокаў. Проста сучаснае мастацтва ўключылася ў святочнае карнавальнае шэсце, якому належыць ужо не адно стагоддзе ў гісторыі чалавецтва.

Манументальныя кампазіцыі нагадваюць архітэктурныя збудаванні. Гэты вобраз «ачалавечваецца», Тамара пераводзіць яго на мову пластыкі, захоўвае энергію станаўлення («Танец», «Нараджэнне начы»). Яна быццам гуляе ў прасторы аб'ёмамі, стварае бясконцасць варыянтаў у адной кампазіцыі (цыкл «З'явы»).

Непадзельнасць сусвету нараджае і новыя адносіны да колеру. У сваёй «Сіняй серыі» яна пераўтварае яго ў святло, што прабіваецца да нас у выглядзе яе дынамічных твораў. Колеру вяртаецца яго касмічная прырода, чым вырашаецца мастаком, па сутнасці, філасофская задача.

У сваёй творчасці Тамара ідзе ад рэальнасці да сімвала, выкарыстоўвае вопыт кубізму, пераадольвае коснасць формы і матэрыі. Яе пластычная сістэма тоесная светабудове.

На здымках: 1. З цыкла «Святкі»
2. Сарока-натхняльніца
3. Т. САКАЛОВА

## ЯЕ ПЕСНЯ РАДЗІМЕ

Тры гады таму ў цэнтральным холе Палаца культуры Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода было адкрыта манументальнае керамічнае пано «Песня пра Радзіму», створанае вядомай мастачкай Тамарай Кіршынай. Тэма твора — гэта гістарычная панарама з жыцця народа Палесся, як неад'емнай часткі агульначалавечага быцця, пачынаючы са старажытных часоў — развітанне Лады з князем Ігарам, і заканчваючы Чарнобыльскй трагедыяй. У сюжэтную канву пано ўплецены гістарычныя вехі XX стагоддзя —Кастрычніцкі пераварот, 37-ы год — плач па ахвярах сталінскага тэрору, вялікая Айчынная вайна ў вобразе беларускіх партызан, пакарэнне космасу — свабодны палёт чалавечага розуму ў касмічнай прасторы і г.д. Вянцом кампазіцыі стаў сімвал Беларусі — фігуры дзяўчыны і юнака, які іграе на жалейцы.

У рабоце над аб'ектам Т.Кіршына знайшла прынцыпова новыя аб'ёмна-прасторавыя і пластычныя рашэнні, наватарскія спалучэнні элементаў круглай скульптуры і гарэльефа з барэльефам і чысцінёй самой плоскасці пано. У магутнай і пругкай акругласці лепкі вялікая роля надаецца колераваму рашэнню. Пластыка і колер арганічна зліваюцца, дапаўняючы адзін адно і ўзбагачаючы вобразны лад твора.

Кампазіцыя, насычаная неардынарнымі пластычнымі знаходкамі ў спалучэнні з багатай ігрой фактур, стварае моцнае ўражанне сваёй манументальнасцю. Пано не толькі ўпрыгожыла Палац культуры, але і па-новаму сфармавала эстэтычнае асяроддзе, якое вельмі неабходна сёння для інтэр'ера падобнага прызначэння. Невыпадкова работа атрымала прызнанне шматлікіх наведнікаў.



Тамара Кіршына — мастачка яркай індывідуальнасці і з'яўляецца аўтарам такіх твораў, як пано «Святы Беларусі» ў мінскай гасцініцы «Беларусь», «Дрэва жыцця» ў гасцініцы «Кастрычнік», «Старая Масква» ў сталічным кафэ «Арбат», шматлікіх выставачных твораў, выкананых у кераміцы, тэкстылі і ткацтве.

Пад кіраўніцтвам народнага мастака Беларусі А.Кішчанкі Тамара таксама ўдзельнічала ў стварэнні буйных тэматычных габеленаў для Беларускага тэатра оперы і балета, для адной з залаў ААН у Нью-Ёрку, мінскага гарвыканкама.

Думаю, што вылучэнне Радай Саюза мастакоў і іншымі арганізацыямі твора «Песня пра Радзіму» на Дзяржаўную прэмію Беларусі — зусім заканамернае прызнанне таленту мастачкі, яе ўнёску ў манументальны летапіс нашай краіны.

**Б.К.**

*На здымках:* 1. Фрагмент пано
2. Т. КІРШЫНА



# АДКРЫТАСЦЬ ДУШЫ — КРЫЖ МАСТАКА

У ПРАЦАХ Любы Міньковіч — зачараванасць сусветам і шэраг яго адкрыццяў, пранікнёных і дзівосных. Яе пейзажы — гэта заўсёднае прызнанне ў каханні — пяшчотнае, трапяткое, рамантычнае. Тэхніка акварэлі, у якой яна працуе, найбольш поўна дазваляе перадаць самыя тонкія градацыі колеру, яго глыбіню і празрыстасць. Кожны куточак Беларусі — а яна заўсёды малюе з натуры — гучыць для яе непаўторнай мелодыяй, якую яна захоўвае ў самой пабудове сваіх прац.

«Вавілонскі натоўп» сучаснага горада застаецца ў яе за плячыма. Ён паглынаецца ў творах цішынёй лясных узгоркаў, якія паступова знікаюць з нашага жыцця, прыгажосцю старых маёнткаў («Лошыцкая серыя»). Тут не чуваць сумяціцы вялікага горада, але як часта пейзажы мастачкі выпраменьваюць трывогу адзіноты. Душа чалавека ўвасабляецца мастаком у срэбранай таполі, восеньскай дуброве, прыхаванай рачулкі.

Яна часта малюе краявіды Міншчыны. У гэтых творах







нібы праяўляецца колеравая структура-сімфонія. Незалежна ад волі і адчування мастака, яны прасякнуты ледзь адчувальным, развітальным настроем, і ў той жа час захоўваюць веру ў моц ціхага голасу, неабходнасці спавядальных інтанацый.

Сапраўдная нечаканасць для тых, хто ведае творчасць Міньковіч толькі як пейзажыста, — партрэты яе сяброў. Колерам і формай перадае яна мастацкую праўду пра іх лёс, унутраную прыгажосць і гармонію («Жанчына ў ружовым», «Мая знаёмая»).

Сама Люба Міньковіч па сутнасці сваёй — чалавек безабаронны, як дзіця. Гэта адбіваецца ў яе аўтапартрэтах, дзе самае галоўнае — вочы жанчыны, што з даверам і смуткам глядзіць на свет («Аўтапартрэт у інтэр'еры», «Музыка»). Адкрытасць душы, як і талент — крыж мастака, які не кожны здолее вынесці ў наш жорсткі час.

На здымках: 1. Л.МІНЬКОВІЧ
2. «Нясвіжскі замак», акварэль
3. «Палявыя кветкі», акварэль

---





# АЧЫШЧЭННЕ

ТВОРЧАСЦЬ для Святланы Катковай — адзіны спосаб існавання на гэтым свеце. Тое, што робіць яна штодзённа як чалавек, жанчына, мастак, — усё пераўтвараецца ў мастацкую сістэму вобразаў, набывае форму і колер у яе творах. Такая арганічнасць нагадвае прыроду народнага мастацтва. І не толькі знешнімі прыкметамі. Сапраўдная высnова яе дзейнасці — вера ў тое, што жаноцкі пачатак аб'ядноўвае ўвесь свет у адзіным рытме і руху. Яна адчувае гэта так пэўна, як некалі яе продкі ў далёкія часы жорсткага і цёмнага пакланення Прыродзе...

Яе праца нагадвае рытуал. Вось яна бярэ кавалак паперы, камечыць яго, уміная ў гліну. З-пад рук выходзіць птушка, якую потым яна абпаліць у вогнішчы. Папера згарыць, як згарае душэўны бруд у агні выпрабаванняў. Ідзе ачышчэнне, пра якое ніхто не ведае. Але яно стане ў нараджэнні твора асноўным.

Птушкі — пасланцы Нябёсаў, птушкі — душы памерлых садзяцца ў яе карцінах на рукі жанчынам, працягваюць да іх свае крылы, быццам існуе паміж імі даўні патаемны саюз. Усе яе вобразы ў жывапісе і кераміцы маюць сімвалічнае значэнне: дрэва абагульняецца да знака, становіцца ўвасабленнем Дрэва Жыцця. Колеру вяртаецца яго першаснае значэнне: белы — чысціня, чырвоны — каханне, чорны — смерць, якая дае пачатак жыццю (лёс зерня).

Жывапісная сістэма мастачкі заснавана на традыцыйным разуменні колеру, яго спалучэнняў. Свае працы яна ўспрымае, як у старажытнасці ўспрымалі роспіс ці вышыўку: не дзеля адной прыгажосці стваралі іх, а як заклінанне ад сурокаў. Але ўсё ж такі карціны Катковай знаходзяцца ў плыні еўрапейскага мастацтва: народная аснова гарманічна спалучаецца ў іх з успрыманнем жывапіснай скарбніцы мінулых часоў.

На здымках: 1. Сакавіцкі кот
2. С.КАТКОВА
3. «Пралескі»



*Матэрыялы падрыхтавала Л.САЛОДКІНА*

# АД ПУБЛІЧНАЙ КУЛЬТУРЫ - ДА ХАТНЯЙ

*Калі мы разважаем аб культуры, то па трывалай звычцы думаем аб чымсьці «высокім» і, як правіла, даволі далёкім ад нашага будзённага, звычайнага жыцця: аб Музеі сучаснага мастацтва ў Нью-Ёрку, аб операх у Ла Скала, аб тэатральных пастаноўках на падмостках Брадвея, аб архітэктурных помніках у Рыме альбо, нарэшце, аб славутым саборы ў Полацку. Хіба мы думаем, хоць бы зрэдку, што мы самі — гэта таксама культура?*

ЗАЗІРАЮЧЫ Ў XXI СТАГОДЗЕ

У канцы XX стагоддзя цэнтр нашага жыцця пераносіцца ў жытло. Няспынна павялічваецца колькасць людзей, якія працуюць дома хаця б частку працоўнага дня. Перш за ўсё, натуральна, гэта прадстаўнікі інтэлектуальных прафесій: журналісты, пісьменнікі, выкладчыкі, навукоўцы, даследчыкі, перакладчыкі. Развіццё інфармацыйных тэхналогій, знітаваных з татальнай камп'ютэрызацыяй і інтэграванымі сістэмамі сувязі, яшчэ больш павялічвае колькасць працуючых дома і робіць працоўнае месца практычна незалежным ад яго месцазнаходжання. Таму што ўсе вытворчыя заданні і адзнакі аб іх выкананні можна будзе атрымаць праз сістэму тэлекамунікацый на экране тэрмінала, і «няважна», дзе ён будзе ўсталяваны. Адной з асноўных пераваг такога «гнуткага» працоўнага месца будзе ўцягванне ў вытворчы працэс хатніх гаспадынь і інвалідаў, якія не маюць магчымасцяў штодзень выязджаць на працу. Яны таксама будуць працаваць дома. З іншага боку, дома застаюцца маткі з маленькімі дзецьмі (тут вялікую ролю адыграў нядаўна дадзены дзяржавай трохгадовы адпачынак па доглядзе за дзіцем), а таксама пенсіянеры, якія, нават жадаючы працягваць працаваць, часта не маюць такой магчымасці. Такім чынам, замест пустой, усімі пакінутай з 9 да 17 — 18 гадзін кватэры мы маем «поўны набор» усіх яе жыхароў: дзядулю і бабулю, якія вырашылі сёння нават не выходзіць на шпацыр з нагоды дрэннага надвор'я; бацьку, якому патрабуецца адасабленне для напісання тэрміновага артыкула; маці, якой неабходна скончыць складаны пераклад з італьянскай мовы; іх замужнюю дачку з двухгадовым малым, які бегае па ўсіх пакоях і наогул аддае перавагу шумлівым гульням; іх сына-студэнта, які ўстаў сёння рана ў надзеі напісаць рэферат па філасофіі. А дзе, дарэчы, муж дачкі? Вы лічыце, што хаця б ён пайшоў у кантору ці на завод? Нічога падобнага! Ён заўсёды працуе дома: ён піша раманы.

Мы не будзем закранаць тут складанасцяў «суіснавання» ў нашых маленькіх кватэрах людзей з такімі рознымі інтарэсамі. Магчыма, у іншым грамадстве, у іншых краінах гэтыя праблемы можна вырашыць. Там, напэўна, у пераўтварэнні дому ў цэнтр прафесійнага жыцця бачаць адныя толькі перавагі: муж і жонка, з'яднаўшыся вакол агульнай справы, узбагацяць сваё сямейнае жыццё новымі гранямі, дзеці будуць гадавацца ў працоўнай атмасферы, ведаючы, над чым працуюць іх бацькі. Апрача таго, уключэнне маладых людзей у вытворчы працэс у рамках свайго дому магло б стаць рэальным шляхам вырашэння праблемы высокага беспрацоўя сярод моладзі.

Аднак сёння кватэры — гэта не толькі месца прыкладання прафесійных інтарэсаў. Мы не толькі часцей працуем дома, але і часцей адпачываем у ім. Цэнтр нашага спажывання культуры таксама пераносіцца ў дом. Прастора кватэры, запоўненая прадметамі і дабротамі культуры (бібліятэка, тэлевізар, музычны цэнтр, відэамагнітафон, відэакамера, камп'ютэр), аказваецца канкурэнтаздольнай у параўнанні з публічнымі культурнымі ўстановамі. Многія формы і віды баўлення вольнага часу пераносяцца ў жытло. Мастацкае асэнсаванне гэтых працэсаў дэманструе параўнанне вядомых фільмаў Э.Разанава, якія былі зняты з адлегласцю ў 20 гадоў і адлюстроўваюць, на нашу думку, дзве супрацьлеглыя мадэлі правядзення аднаго з галоўных свят — сустрэчы Новага года. Гэта «Карнавальная ноч» — шумнае калектыўнае свята ў клубнай установе, і «Іронія лёсу», калі два чалавекі застаюцца сам-насам у замкнёнай прасторы кватэры.

Першапачаткова падобныя тэндэнцыі былі зафіксаваны пры даследаванні працы масавых бібліятэк. Як высветлілася, насельніцтва ад нядаўняга часу чытае ў сябе дома. Пакуль яшчэ ў бібліятэках працягваюць рыхтавацца да заняткаў і знаёміцца з перыёдыкай, але гэта чытанне сталася вельмі функцыянальным. Калі раней, на працягу пяці стагоддзяў існавання друкаванай кнігі чытачы ўсіх узростаў і ўзроўняў адукацыі аддавалі перавагу мастацкай літаратуры, то зараз гэтая прэрагатыва належыць літаратуры па спецыяльнасці. З самакаштоўнага занятку чытанне ў публічных бібліятэках ператвараецца ў дапаможнае, якое спадарожнічае цалкам практычным мэтам.

Падобная эвалюцыя — з публічных на хатнія формы — характэрна і для феноменаў экраннай культуры. Першапачаткова дэманстрацыя відовішчаў уяўляла сабой цэнтралізаваны працэс: публіка ішла ў кінатэатры. Вынаходства тэлебачання, якое прыйшло непасрэдна ў дом, сталася першым крокам такой эвалюцыі. Аднак тэлебачанне не з'яўляецца «хатнім» аналагам кінематографа; пры некаторым падабенстве вырашаемых задач іх інфармацыйны і сугестыўны эфекты дапаўняюць адзін аднаго. Таму кінематограф і тэлебачанне існуюць у розных плоскасцях культурнай прасторы, што забяспечвае спажыванне візуальнай прадукцыі як у жытле, так і ва ўстановах культуры. Да іншых вынікаў прыводзіць набыццё відэамагнітафона. Спажывец аказваецца вольным ад праграмнай зададзенасці: мы самі ў стане выбраць тую ці іншую культурную прадукцыю ў той ці іншы момант. Відэакасета ўяўляе сабой такое ж самае захаванне фрагмента сусветнай культуры ў «памяці» кватэры, якое характэрна для кнігі. Па аналогіі са збіраннем асабістых бібліятэк і фанатэк зараз назіраецца працэс стварэння хатніх відэатэк. Маюцца ўсе падставы меркаваць, што распаўсюджванне відэатэхнікі ўнясе выбіральнасць у спажыванне культурнай прадукцыі.

Поруч з фармаваннем хатніх відэатэк вялікую папулярнасць набывае распаўсюджванне і сістэматызацыя рэпрадукцый, твораў мастацтва, перш за ўсё жывапісу і архітэктуры. Безумоўна, мастацкія ўражанні ад арыгінала значна мацней, чым ад копіі, тым больш ад паменшанай рэпрадукцыі. Але ўспрыманне мастацтва — акт індывідуальны, уражанне ад мастацкага твора глыбока суб'ектыўнае і, нават добра ведаючы арыгінал, мы заўсёды маем сваё асаблівае меркаванне аб ім, свой уласны вобраз твора. У гэтым выпадку рэпрадукцыя служыць апірышчам для памяці і ўяўлення. Сузіраючы здымак, цень арыгінала, мы ажыўляем свае ўяўленні, успаміны пра арыгінал, аднаўляем зносіны з ім. Апрача таго, у працэсе калекцыянавання мы атрымліваем рэдкую магчымасць складаць, арганізоўваць асабістыя экспазіцыі, ажыццяўляць мантаж асобных твораў класічнага і сучаснага мастацтва, змяшчаць тыя ці іншыя шэдэўры ў супастаўляльны альбо, наадварот, кантрастны кантэкст. Гульня ўяўлення, аўтарскае жаданне набываюць небывалую магчымасць вольных зносін з каштоўнасцямі сусветнай культуры. Раскладваючы своеасаблівы «пасьянс» з рэпрадукцый, мы кожны раз можам атрымаць новы мастацкі рад. Тая альбо іншая паслядоўнасць прагляду экспазіцыі, той альбо іншы прынцып пабудовы калекцыі адкрываюць новыя глыбіні ў спазнанні мастацтва.

Рэпрадукаванне феноменаў экраннай культуры, па-першае, дае магчымасць далучыцца да набыткаў сусветнай культуры мільённай аўдыторыі, стымулюючы яе духоўнае развіццё. Па-другое, яно спарадзіла адну з найважнейшых тэндэнцый развіцця сучаснай культуры — індывідуальныя, асабістыя зносіны гледачоў з мастацкімі творамі. Узнікшы ў 70-я гады, масавае захапленне калекцыянаваннем адлюстроўвае развіццё гэтай тэндэнцыі — імкненне зрабіць спецыялізаваны міні-музей у сябе дома.

Разважаючы аб рэпрадукцыях твораў мастацтва, неабходна мець на ўвазе, што размова ідзе не толькі і не столькі аб «карцінках» саміх па сабе, але аб карцінках, якія знаходзяцца ў памяці камп'ютэра. У наяўнасці новыя формы прылучэння людзей да шэдэўраў сусветнай культуры: каляровыя выявы карцін, што запісаны ў памяці ЭВМ; камп'ютэрныя сеткі, якія злучаюць найбуйныя музеі свету і абменьваюцца вербальнай і візуальнай інфармацыяй; электронныя каталогі помнікаў мастацтва і іншыя. Новыя формы запісу, захавання і перадачы мастацкай інфармацыі служаць дэмакратызацыі спажывання культурных каштоўнасцяў.

Такім чынам, даследуючы тэндэнцыю пераарыентацыі масавай культурнай дзейнасці з публічных на хатнія формы, і — шырэй — пераўтварэнне прасторы кватэры ў цэнтр грамадскага жыцця, мы можам адзначыць з'яўленне новых самадзейных культурных ініцыятываў, звязаных перш за ўсё з магчымасцю індывідуалізаваць сваё культурнае меню, напрыклад, праз стварэнне хатняй відэатэкі альбо відэамузея. У выніку гэтых культурных інавацый на першы план выходзіць канструяванне, асэнсаванне, абмеркаванне праграмаў асабістай дзейнасці ў варунках, калі традыцыйныя сховішчы культурных каштоўнасцяў (публічныя бібліятэкі, музеі — як сродак «прылучэння» да культуры) прыцягваюць да сябе менш увагі. Расце інтарэс да асобасна афармленай, персаніфікаванай культуры. Гэта вядзе да ўзмацнення асобаснага пачатку ў механізме культурнага працэсу. Узнікае імкненне скараціць дыстанцыю паміж сваім «Я» і фонам каштоўнасцяў культуры: гэта не столькі прылучэнне да гэтага фонду як чагосьці да вонкавага, колькі асваенне яго як свайго асабістага. Адсюль відавочны зрух ад перавагі спажывання «гатовых» каштоўнасцяў культуры да актыўнага ўдзелу ў іх стварэнні, нават калі яно прымае форму простага запісу трансляцый (напрыклад, самастойнае фармаванне відэатэкі шляхам выбарчага перазапісу). Гэта тым больш слушна адносна ўласна творчых момантаў удзелу шырокіх мас у культурным працэсе. Тут маюцца на ўвазе так званыя «даелагавыя фільмы» — вострасюжэтныя навукова-фантастычныя альбо дэтэктыўныя фільмы, прызначаныя для дэманстрацыі на відэамагнітафоне, які кіруецца ЭВМ. Спецыфіка «даелагавых фільмаў» у тым, што глядач з дапамогай [illegible]ведных каманд, якія падаюцца з пульта персанальнага камп'ютэра, мае магчымасць непасрэдна ўмешвацца ў ход развіцця сюжэта ("узаемадзейнічаць" з персанажамі). З пасіўных назіральнікаў мы пераўтвараемся ў «вяршыцеляў лёсу» кінагерояў. Упершыню чалавек ля экрана тэлевізара атрымлівае магчымасць непасрэдна ўплываць на вынік відовішча: паядынку, бітвы, пагоні, наўмысна заблытваць сляды альбо, наадварот, актыўна дапамагаць вышуку ўчыненага на яго вачах злачынства і г.д. «Даелагавы фільм», такім чынам, уяўляе сабой прынцыпова новы жанр відэамастацтва, звязаны з узаемадзеяннем, сімбіёзам творчасці прафесіяналаў і шараговых грамадзян. Падобны эфект дасягаецца і праз стварэнне непрафесіяналамі ўласнай культурнай прадукцыі, не выходзячы з дому. Наяўнасць відэакамеры і відэамагнітафона дазваляе здымаць і дэманстраваць відэафільмы па ўласным сцэнары (такі прынцып закладзены ў перадачы расійскага тэлебачання «Сам сабе рэжысёр»). У краінах з развітай інфармацыйнай інфраструктурай (Японія, ЗША) маюцца магчымасці звязаць у адзіны тэхнічны ланцуг тэлевізар, камп'ютэр, відэакамеру і мікрафон. Кватэра такім чынам лёгка пераўтвараецца ў тэлестудыю: кожны з жыхароў можа выступіць з асабістай праграмай (публіцыстычнай альбо мастацкай) перад астатняй аўдыторыяй.

Уяўляецца, што галоўным вынікам гэтых інавацый у перспектыве стане фармаванне новай культурнай прасторы, арганізаванай хутчэй «па гарызанталі», чым «па вертыкалі». У масавай свядомасці ўжо зараз фармуецца дастаткова выразнае ўяўленне аб тым, што культура не ёсць штосьці высокае і далёкае, звязанае толькі з гістарычнымі цэнтрамі сусветнай культуры, але гэта яшчэ і тое, што закладзена ў самім чалавеку і атачае яго. Пашыраецца разуменне таго, што значныя падзеі агульнакультурнага працэсу павінны адбывацца ўсюды, а не толькі ў сталіцах і музеях-запаведніках.

У аснове гэтай высновы ляжыць змена культурных парадыгмаў: паступовы пераход ад мадэлі прылучэння да культурных каштоўнасцяў, ад іхняга спажывання да мадэлі культурнага жыцця — да жыцця культурай, жыццю ў культуры. Сацыяльная дыстанцыя паміж чалавекам і каштоўнасцямі культуры, паміж суб'ектам і аб'ектам культурнатворчага працэсу пачынае прыкметна скарачацца.

Ірына СІДОРСКАЯ.

# БЕНЕФІС НАРОДНАЙ АРТЫСТКІ

КАНТРАМАРКА



КАМУ з аматараў беларускага тэатральнага мастацтва, найперш старэйшага ўзросту, не вядомая дзівосная па характару і лірызму песня Настачкі са спектакля «Несцерка» Беларускага тэатра імя Якуба Коласа?!..

*«Мне матуля загадала,*
*Каб я з любым не стаяла.*
*Я стаці з ім не буду,*
*Ды ніколі не забуду.*
*Да яго сама прыду,*
*Падарунак прынясу.*
*Падарунак дарагі —*
*Сэрца ключык залаты.»*

Хто з сапраўдных тэатралаў не пазнае найпрыгажэйшы голас маладой Зінаіды Канапелькі?

Сёлета выдатная актрыса адзначыла два юбілеі — 75-годдзе з дня нараджэння і 60-годдзе творчай дзейнасці. З гэтай нагоды ў Акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа адбыўся яе грандыёзны (іншага слова, бадай, не падбярэш) бенефіс. Складаўся ён з трох частак. Спачатку гледачам прапанавалі першую дзею новага спектакля «Старая актрыса на ролю жонкі Дастаеўскага» паводле п'есы Эдварда Радзінскага — самастойную творчую работу Зінаіды Канапелькі і акцёра тэатра Яўгена Сакольскага (гэта яго рэжысёрскі дэбют). Другая частка (самая працяглая) складалася са шматлікіх віншаванняў. І нарэшце, коласаўцы паказалі адметны акцёрскі капуснік — своеасаблівы прэзент «маме Зіне».

Драматычны лёс цэнтральнага персанажа новага спектакля — Актрысы, нікому не патрэбнай, пакінутай у доме для састарэлых, забытай роднымі, блізкімі, гледачамі, калегамі, — ніяк не нагадвае жыццёвы і творчы шлях Зінаіды Ігнатаўны. І разам з тым у гэтых жанчын ёсць і істотнае агульнае, што турбуе і не дае спакою: туга па тэатральнай маладосці, раптоўнае адчуванне адзіноты, нават комплекс нерэалізаванасці сваіх магчымасцей, несыграных роляў. Ці не таму Зінаіда Канапелька і ўзялася за самастойную творчую працу, хоць жанр монаспектакля вымагае найвялізарных псіхічных і фізічных затрат? Прыгадаем тут, што народная артыстка (не па званні, а па сапраўды народным прызнанні) больш за дзесяцігоддзе не атрымлівала вялікіх роляў, іграла эпізоды, працавала ў выязных спектаклях. А творчы патэнцыял быў велізарны... Успомнім такія мастацкія дасягненні актрысы, як Настачка і Мальвіна ў «Несцерку» В.Вольскага, Фіджы ў «Амерыканскай трагедыі» паводле Т.Драйзера, Галя ў «Алазанскай даліне» К.Губарэвіча і І.Дорскага, Насця ("Пяюць жаваранкі" К.Крапівы), Разалія Паўлаўна ("Клоп" У.Маякоўскага), Мара Цвіевіч ("Доктар філасофіі" Б.Нушыча), Ганерылья ("Кароль Лір" У.Шэкспіра), Лізавета ("Марыя Сцюарт" Ф.Шылера), Паліна ("Трыбунал" А.Макаёнка), Міхаліна ("Трывога" А.Петрашкевіча), Даўнарэня ("Клеменс" К.Саі), Сафо ("Заставайцеся сонцам" А.Папаяна), Арына Радзівонаўна ("Верачка" А.Макаёнка).

На творчы вечар Зінаіды Канапелькі прыехала шмат гасцей. Усе яны горача і сардэчна віталі юбіляра, зычылі здароўя, бадзёрасці, творчага запалу. Уся глядзельная зала ўстала і гучнымі апладысментамі вітала паведамленне старшыні Саюза тэатральных дзеячаў Аляксея Дударава аб уручэнні Зінаідзе Ігнатаўне найвышэйшай у нашай краіне тэатральнай узнагароды — "Крышталёвай Паўлінкі" (яна дагэтуль уручалася двум акцёрам — Стэфаніі Станюце і Расціславу Янкоўскаму). Тут жа пад авацыі публікі прыз і быў уручаны актрысе.

Зінаіду Ігнатаўну цёпла віталі землякі — абласное і гарадское начальства, дзеячы культуры, проста гледачы. Дарэчы, выступленні на свяце міліцэйскага і прафсаюзнага «начальства», што, напэўна, кагосьці здзівіла, зусім невыпадковыя: мабыць, не ўсе ведаюць пра тое, што Зінаіда Ігнатаўна шмат гадоў падтрымлівала культурна-шэфскія кантакты з міліцыяй, за што мае адпаведныя ўзнагароды, а таксама з'яўлялася старшынёй прафсаюзнага камітэта ў коласаўцаў. Адметны віншавальны нумар падрыхтавалі калектыў Віцебскага тэатра «Лялька»: актрысу віншавалі Чырвоны Каптурык (актрыса Святлана Лунёва) і яе Бабуля, якая, згодна з цікавай сцэнарнай задумай, памятае Зінаіду Ігнатаўну яшчэ зусім маладой (артыст Алесь Маханькоў).

Асаблівa ж парадавалі і Зінаіду Ігнатаўну, і гледачоў артысты-коласаўцы, якія падрыхтавалі арыгінальны капуснік. Юбілярку віншавалі героі спектакляў «Цыліндр» і «Здурнелы Журдэн». Калі ўлічыць, што апошні з'яўляецца палітычнай пародыяй, то ўдзельнікамі маляўнічага відовішча былі Журдэн — Сталін і пані Журдэн — Ленін. Апафеозам гумару стала парадыйная сцэнка паводле спектакля-казкі «Жыла-была Сыраежка», у якой «разборку» мафіёзны грыбоў спыняў «самы галоўны грыб» у міліцэйскай форме (артыст Пятро Ламан).

У фінале вечара па прапанове простай глядачкі, якая паднялася на сцэну з залы, усе прысутныя ўспомнілі тых артыстаў-коласаўцаў, з якімі разам ішла па жыцці Зінаіда Ігнатаўна і якія ўжо ніколі не выйдуць на гэтую знакамітую сцэну, — Аляксандра Ільінская, Анатоля Шэлега, Анатоля Труса, Іосіфа Матусевіча, Галіны Маркінай, Мікалая Цішачкіна.

Шчасця Вам, здароўя, бадзёрасці, новых роляў, выдатная актрыса і светлы чалавек — Зінаіда Ігнатаўна Канапелька.

**Юрась ІВАНОЎСКІ.**

г.Віцебск.

**Фота С.КОХАНА**



# ПРЫГАЖОСЦЬ, ЭНТУЗІЯЗМ І ПРАБЛЕМЫ

ХТО не памятае свой вальс — школьны, шлюбны, проста выпадковы з невядомым хлопцам ці дзяўчынай? І хто не марыць аб тым, каб і яго дзеці, або, калі малады, і ён сам, змог пад гукі цудоўнай музыкі, пад уважлівымі позіркамі гледачоў і знаёмых прайсці з захапленнем па кругу?..

Такая мара стала рэальнасцю для многіх віцебскіх хлапчукоў і дзяўчынак рознага ўзросту, калі з далёкага Душанбэ ў наш край прыехалі прафесійныя танцоры, лаўрэаты міжнародных конкурсаў Андрэй і Наташа Кананенкі. Праз кароткі ўжо час многія іх вучні прынялі ўдзел у рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах, дзе заваявалі прызавыя месцы. Пад кіраўніцтвам Андрэя і Наташы, а таксама Ірыны Бальшаковай у Віцебску прайшлі танцавальныя конкурсы, якія сабралі ўдзельнікаў з многіх гарадоў СНД. Яны прыцягнулі ўвагу шырокай грамадскасці горада, сталі сапраўднымі конкурсамі хараства, культуры.



Танцавальныя спаборніцтвы адбываюцца па шырокай праграме, у якой прадугледжваецца выкананне еўрапейскіх танцаў («Вальс», «Танга», «Факстрот») лацінаамерыканскіх («Румба», «Самба», «Ча-ча-ча»), і кожны глядач многіх конкурсаў адзначаў майстэрства і энтузіязм нашых маладых танцораў, іх жаданне працаваць і ісці далей па шляху культурнага адраджэння нашай Бацькаўшчыны.

Не губляюць сваё майстэрства і самі настаўнікі. Андрэй і Наташа Кананенкі сваімі выступленнямі пакарылі многія гарады Беларусі, куды іх не перастаюць запрашаць для выступленняў разам з самымі знакамітымі калектывамі і артыстамі нашай дзяржавы.

Без сумнення — гэта адна з самых таленавітых танцавальных пар нашай краіны. Прыемна адчуваць, што танцавальная культура, якая ва ўсім свеце з'яўляецца элітнай, знайшла сваё месца і ў нас, пускае тут карані, рыхтуе маладую змену і сама рыхтуецца выйсці за межы дзяржавы, каб прадстаўляць Рэспубліку Беларусь на шырокай міжнароднай арэне.

Але ж у нялёгкай сучаснасці многа цяжкасцей і перашкод паўстае перад артыстамі. Калі з дарагімі касцюмамі, заламі для заняткаў, зарплатай тое-сёе вырашылі за кошт мясцовых сродкаў, то выйсці на міжнародны ўзровень стала амаль немагчыма, хаця майстэрства нашых танцораў адпавядае лепшым сусветным стандартам. Каб зацвердзіцца ў свеце, трэба пастаянна выступаць на спаборніцтвах вышэйшага ўзроўню, а як гэта зрабіць, седзячы дома, не маючы сродкаў нават купіць відэамагнітафон, каб глядзець запісы лепшых конкурсных выступленняў?!

У сакавіку гэтага года ў Германіі будзе праходзіць сусветны танцавальны конкурс, на які трэба было б паслаць і нашых танцораў. Андрэй і Наташа Кананенкі збіраюцца паехаць туды за асабісты кошт. Але ж ці змогуць яны знайсці ў сямейным бюджэце, адарваць ад сябе, ад сваёй сям'і, а ў іх маленькі сын, патрэбную суму грошай, калі адзіны іх даход — гэта «дзяржаўная» зарплата звычайнага артыста?!

Дык няўжо мы нічога не зможам зрабіць для нашай культуры? Няўжо мы не зможам адправіць на сусветнае спаборніцтва ўсяго адну таленавітую пару?!

Я звяртаюся да бізнесменаў — магчымых спонсараў — «Дапамажыце!» Дарэчы, па ўмовах конкурсу разам з танцавальнымі парамі ў Германію мае права паехаць і іх спонсар. Візу яму адкрываецца на адзін месяц. Ён мае права ў рамках правядзення конкурсу рэкламаваць сваю прадукцыю і заключаць здзелкі.

Я звяртаюся да ўсіх, хто мае сяброў у Германіі. Паспрыяйце, звяжыцеся са сваімі сябрамі, каб яны ў якасці жэста добрай волі дапамаглі прыняць нашых танцораў, тады затраты на ўдзел у конкурсе былі б значна меншыя.

Калі не мы, дык хто і калі паклапоціцца аб выхадзе нашай культуры на міжнародны ўзровень?

**Вячаслаў БЕЛАВУС.**

г.Віцебск.

P.S. Па пытаннях спонсарства просьба звяртацца ў Віцебскую абласную філармонію, дзе працуюць Андрэй і Наталля Кананенкі.

**На здымку: А. і Н. КАНАНЕНКІ.**
**Фота В.БЕЛАВУСА.**

# НАЗВУ ТРЭБА МЯНЯЦЬ?..

*Яшчэ не так даўно мы імкнуліся выкрасліць са свайго жыцця старыя традыцыі. Прыдумвалі новыя абрады. Такая была «мода». Але час паказаў: без вопыту і мудрасці продкаў культура не можа існаваць. Там, дзе больш «паспяхова» выкаранялі назапашанае народам на працягу тысячагоддзяў, родную мову, менш за ўсё засталося духоўнасці, чыстых чалавечых пачуццяў, а расквітнелі жорсткасць, цынізм, абыякавасць, невуцтва. Разбураць храм было куды прасцей, чым адбудоўваць нанава.*

*Анатолю СІНКАЎЦУ — загадчыку Бабруйскага раённага аддзела культуры даводзіцца расчышчаць завалы на шляху да духоўнасці. Ёсць тут і свае здабыткі, і свае праблемы.*

— На маю думку, патрабуе змены назва — Дом культуры. Я разумею так, — калі гэта сапраўдны асяродак культуры, то яна павінна вас суправаджаць паўсюль: ужо пры ўездзе ў вёску, мястэчка павінны быць роўныя платы, прыгожыя кветнікі, а не парослыя бур'яном і заваленыя смеццем вуліцы і агароды, чысціня і парадак у крамах і гандлёвых цэнтрах, адсутнасць «моцных» выразаў у аўтобусах і іншых месцах. Усё гэта, на жаль, даводзіцца даволі часта назіраць. Мне часам сорамна, што я загадчык раённага аддзела культуры. Сама пасада абавязвае рабіць усё магчымае, каб перашкаджаць наступу бескультур'я. А што робіцца з моладдзю? Нашы працаўнікі імкнуцца арганізаваць для яе цікавыя вечары, дыскатэкі. Аднак не заўсёды назіраецца разуменне з боку юнакоў і дзяўчат. Іншым разам з імі цяжка размаўляць, бо яны ў многіх выпадках прызвычаіліся да ўсяго ставіцца па-спажывецку, не навучаны паводзіць сябе, як належыць цывілізаванаму чалавеку — гэта рэшткі старога выхавання. Лічу, называць у такіх месцах асяродак, дзе бавяць час, Домам культуры — недарэчна.

Аднак я не песіміст і веру, што ў будучым у нас не ў асобных месцах, а паўсюдна стануць паважліва ставіцца да традыцый, роднай мовы і культуры, да старых, адзін да аднаго, вас будуць сустракаць ветліва і з усмешкай. Тады можна будзе казаць смела: усе асяродкі культуры працуюць на ўзроўні! На дадзеным этапе гэта зрабіць складана, бо толькі сіламі культасветнікаў не абысціся. Патрэбны намаганні ўсіх, пачынаючы з выхавацеляў дзіцячага садка, настаўнікаў школ, работнікаў гандлю, медыцыны і гэтак далей.

**— Ці маеце вы ўласную праграму па адраджэнні і развіцці традыцыйнай культуры?**

— У нас распрацавана праграма «Спадчына». Асаблівая ўвага надаецца эстэтычнаму выхаванню падрастаючага пакалення. У раёне працуе восем музычных школ і адна мастацтваў. Адкрываюцца класы жывапісу, ігры на гармоніку, народных рамёстваў. У калгасе «Гігант» дзеці навучаюцца ткацтву, у вёсцы Кавалі — саломапляценню, у Варатыні — ткацтву і лозапляценню. Назіраючы такую цікавасць да традыцый, мы вырашылі пры раённым цэнтры культуры стварыць аддзел дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва і народных рамёстваў, дзе даюць парады і дарослым і дзецям ганчар, разьбяр па дрэве, чаканшчык, спецыялісты па ткацтве, жывапісе, саломапляценні. І, натуральна, перадаюцца юным жыхарам Бабруйшчыны традыцыйныя песня і танец. У Ламбаўскім вясковым клубе хлопчыкі і дзяўчынкі выконваюць прыгожыя старыя «Падэспань», «Суботу», «Кракавяк». Між іншым, сам я навучыўся гэтым танцам у больш сталым узросце — калі знаходзіўся на практыцы ў вёсцы Бортнікі падчас вучобы ў Магілёўскім культасветвучылішчы. Дарэчы, у Бортніках, а таксама ў Варатыні старыя традыцыі ніколі не згасалі, што надарылася ў іншых месцах, і перадаваліся з пакалення ў пакаленне. У Вялікіх Бортніках існуе ансамбль народнай песні.

**— На Бабруйшчыне захаваліся старыя цэнтры рамёстваў?**

— Так. І болей за ўсё ў зарэчнай зоне. Зноў-такі прыгадваю Бортнікі — тут распаўсюджаныя ткацтва, вырабы з саломкі і лазы, вышыванне. У Глушы адноўлены так званы дом бедняка. У доме змяшчаюцца старыя ткацкія станкі, самапраха. Устаноўлена прылада, якой я ніколі раней не бачыў. На ўсіх іх можна працаваць. Такі вось цікавы цэнтр рамёстваў атрымаўся.

**— А якія стасункі ў вас з камерцыйнымі структурамі?**

— Калі звяртаемся да іх, не адмаўляюць. Наладзілі мы правядзенне творчых і юбілейных вечароў нашых ветэранаў. Прайшлі такія сустрэчы з удзелам спонсараў, прысвечаныя Ганне Балыка і Ганне Зубрыкавай. Юбіляркі атрымалі ў падарунак ровары.

Пры дапамозе спонсараў нашы калектывы выязджаюць на гастролі далёка за межы Магілёўшчыны і нават Беларусі. Фірма «Ініцыятыва» пасадзейнічала ўдзелу знакамітага ансамбля «Пярэзвы» ў фальклорным фэсце, які праходзіў у Карэліі. Не забудуся на тыя цудоўныя сустрэчы. Нас прымалі як прадстаўнічых замежных гасцей, нават наш «Ікарус» суправаджалі ў Петразаводску аўтамашыны ДАІ. У Карэліі, як аказалася, жыве шмат беларусаў, там існуюць цэлыя беларускія вёскі. Калі яны даведаліся, што прыехаў на фэст калектыў з Бацькаўшчыны, наладзілі з намі сустрэчу, адорвалі кветкамі, частавалі малаком. Калі развітваліся, дык слёзы стаялі ў вачах гэтых гасцінных людзей.

**— Зразумела, як і ва ўсіх, у вас ёсць свае праблемы. Як вырашаеце іх?**

— Значную дапамогу аказваюць нам гаспадаркі. Аднак, на жаль, не ўсе кіраўнікі ўсведамляюць важнасць падтрымкі нашай сферы. Нягледзячы на цяжкасці з фінансаваннем музычных школ (гаспадаркі з-за недахопу сродкаў пачалі іх закрываць), мы здолелі захаваць установы. Раённыя ўлады поўнасцю ўзялі іх на свой бюджэт.

Зараз паўстала новая праблема. Большасць выкладчыкаў прыязджае з горада. А зараз, як вядома, цяжкасці з палівам, адменена шмат аўтобусных рэйсаў. Спецыялісты не могуць дабрацца да вёсак, і парушыўся навучальны працэс не толькі ў музычных школах, але і ў агульнаадукацыйных.

**— Напэўна, настаўнікам цяжка ўладкавацца на месцах...**

— У тым уся і справа, што ім прапаноўваюць кватэры, але пераважная большасць не мае асаблівага жадання перабірацца ў вёску. Можа, зараз пойдуць працаваць?.. Цудоўныя спецыялісты — выпускнікі Беларускага універсітэта культуры — муж і жонка Сарокіны ўладкаваліся ў Осаве, атрымалі двухпакаёвую кватэру.

**— Ці перайшлі раённыя музычныя школы на выкладанне па-беларуску?**

— Так. Больш таго, з 1 лістапада нашы работнікі праходзяць курсы беларускай мовы. А з 1 студзеня ўсе культасветнікі раёна пераходзяць на карыстанне беларускай мовай.

**— А як справы з клубамі і бібліятэкамі, яны не закрываюцца?**

— На сённяшні дзень — не. Калі і адбываецца што, дык гэта рэарганізацыя іх у месцы правядзення вольнага часу, пункты выдачы кніг. Але кадры ў нас захоўваюцца. Мы больш працаўнікоў накіроўваем у Дамы культуры цэнтральных сядзібаў і бібліятэкі. Наадварот, мы зараз, напэўна, адзіны раён у вобласці, які ўвёў у штат Дамоў культуры разам з ранейшымі пасадамі дырэктара і мастацкага кіраўніка яшчэ і хормайстра, балетмайстра, акампаніятара.

Па серадах праводзім так званы метадычны дзень. Працаўнікі ўстаноў культуры і музычных школ прыязджаюць у Бабруйск — у раённы цэнтр культуры. Тут яны спяваюць у хоры работнікаў культуры, іграюць у аркестры народных інструментаў. Потым працуюць па секцыях, пішуць сцэнары. З лістапада мінулага года пачаў дзейнічаць аддзел па арганізацыі вольнага часу і музычна-тэхнічны. Пры апошнім працуе экспедыцыя, якая збірае мясцовы фальклор. У музычна-тэхнічным аддзеле можна запісаць музыку для вечара, любога іншага мерапрыемства, знайсці фальклорныя творы.

Вучымся пастаянна. Нядаўна прайшла атэстацыя работнікаў кіруючага звяна: яны павінны былі напісаць сцэнар, ажыццявіць ягоную пастаноўку на вёсцы, паказаць работу з мастацкім калектывам. Імкнемся таксама, каб ў раённым цэнтры культуры працавалі людзі, якія пачыналі шлях ад сельскага Дома культуры. Не застаецца па-за ўвагай і вопыт старэйшых.

**— Як ставяцца на Бабруйшчыне да помнікаў гісторыі і архітэктуры?**

— Мы цесна супрацоўнічаем з археолагамі, гісторыкамі, рэстаўратарамі. Шмат навуковых экспедыцый працуе ў раёне. Праводзіліся раскопкі ў саўгасе Пятровічы, дзе ў даўнім мінулым знаходзілася гарадзішча. У свой час даследаванні вяліся ў Сычкавічах. Там зараз дзейнічае краязнаўчы музей. Адрэстаўраваны будынак раённай бібліятэкі, у мінулым стагоддзі гэта быў асабняк багатай бабруйчанкі. Першапачатковы выгляд надаецца царкве, што знаходзіцца ў вёсцы Цялушы, якая належала ўнучцы Аляксандра Пушкіна — Наталлі АляксандраўнеВаранцовай-Вельямінавай.

Наша зямля звязана з імёнамі многіх вядомых людзей Бацькаўшчыны: Плёсы — з Міколам Аўрамчыкам, Пабокавічы — з Платонам Галавачом. Алеся Адамовіча мы лічым сваім земляком, ён вельмі любіў Глушу, часта наведваўся сюды, а зараз пахаваны побач з магілаю маці. Вёска Панюшкавічы пакінула след у жыцці Дуніна-Марцінкевіча.

У нашай працы нам вельмі дапамагае выканкам, ягоны старшыня Эдуард Бекус. Пытанні, што тычацца культуры, займаюць тут адно з першых месцаў. І гэта, безумоўна, дае свой плён. Разуменне і падтрымка ўсяляюць аптымізм і веру ў тое, што складанасці нашага часу мы пераадолеем.

Гутарку вяла
Наталля КІРПІЧЭНКАВА.

---

ПОГЛЯД

# «РАСПРОДАЖ ІЛЮЗІЙ» АДМЯНЯЕЦЦА

Апошнім часам, на хвалі ўзнікнення розных напрамкаў і плыняў у сучаснай музыцы, паміж асобнымі музычнымі крытыкамі і прыхільнікамі рок-музыкі ва ўсю разгарнулася вайна. Можа, гэта занадта моцна сказана, але што разгалоссе па адным спрэчным пытанні існуе, — дык гэта дакладна.

Калі адны з усёй кампетэнтнасцю заяўляюць, што стары —добры, некалі ўсімі любімы рок-н-рол аджыў сваё, то іншыя катэгарычна гэта адмаўляюць.

Не ведаю, як у іншых гарадах краіны, але ў нашым правінцыйным Магілёве гэтыя два выказванні адно аднаму не пярэчаць, пра што хочацца расказаць праз штотыднёвік «Культура» і падзяліцца з нераўнадушнымі чытачамі праблемамі, якія могуць прывесці ў заняпад рок-культуру на Магілёўшчыне.

У горадзе на Дняпры назіраецца то зацішша на музычных пляцоўках, то адбываецца сапраўдны выбух, калі ў месяц праходзіць адразу ж па некалькі андэграўндных канцэртаў.

Зразумела, знойдуцца скептыкі, якія з ухмылкай запытаюцца: «Ну-ну, і што гэта ў вас там іграюць?» На што мы, прадстаўнікі маладзёжных музычных тусовак Магілёва, ганарліва адкажам: «Усё! Ад чыстага андэграўнда да «жалеза».

Так, адчуваецца яшчэ ў нас дух часоў сацыялістычнага рэжыму, як то забароны гарадскіх уладаў на правядзенне сэйшнаў, негатыўныя адносіны праваахоўных органаў і, нарэшце, закрыццё рок-кафэ, раней даволі вядомага ў рэспубліцы. І ўсё ж Магілёў па праву з'яўляецца адным з цэнтраў панк-рока сярод іншых гарадоў былога СССР. У гэтым яшчэ раз усіх пераканалі нядаўнія высакакласныя выступленні магілёўскіх рок-выканаўцаў у сталіцы, аб чым, як ні дзіўна, у самім родным горадзе мала хто здагадваецца.

І ўсе гэтыя канцэрты і фэсты, што прыносяць столькі захаплення аматарам андэграўнда, у Магілёве даводзіцца арганізоўваць Юрыю Раманцаву, энтузіясту і нераўнадушнаму да музыкі чалавеку.

У мінулым годзе ў нашым горадзе адбыўся фэст, на якім асаблівую сімпатыю гледачоў заваяваў магілёўскі гурт «Месца распродажу ілюзій». На жаль, апошнім часам гэтая каманда нароўні з іншымі не можа выступаць з канцэртамі па простай прычыне: музыканты пазбаўлены апаратуры і месца для рэпетыцый.

У час канцэрта «Жалезны паток» на агульным фоне значна вылучыліся ўжо даволі вядомыя магіляўчанам гурты «Трэшэр» (ён, дарэчы, уваходзіць у Маскоўскую карпарацыю цяжкага рока), «Джоллі Роджэр», а таксама каманда з Гомеля «Gods Teг», якая пакуль яшчэ не набыла вялікай папулярнасці ў маладзёжных колах.

Акрамя таго, Магілёў перажыў першы рэспубліканскі фестываль па «дэсу» і «думу» — «Дэс сярод балот», на якім былі прадстаўлены новыя і пакуль яшчэ малавядомыя плыні ў рок-музыцы.

А колькі андэграўндных канцэртаў праходзіла ў зараз ужо зачыненым рок-кафэ, куды нядаўна з'язджаліся проста падзяліцца вопытам і паказаць сябе рок-бэнды з усёй Беларусі і бліжняга замежжа — «Рэзервацыя тут» з Масквы, «Эдгар По» з Цюмені...

Нам, жыхарам Магілёва, вельмі прыемна, што наш горад прываблівае да сябе рок-выканаўцаў з розных краін былога СССР. Але...

Але гэта ўсё было ўчора. Сёння, па вядомых прычынах, арганізатары сутыкаюцца з шэрагам праблем, якія з цягам часу толькі абвастраюцца. Не дужа гарадскія ўлады шануюць праяўленне ініцыятывы магілёўскіх меламанаў, і ёсць небяспека, што заўтра на рок-пляцоўках Магілёва на самой справе будзе панаваць мёртвая цішыня. І тады музычным крытыкам нічога не застанецца, як памірыцца паміж сабой. Але ўсё роўна, калі і настане такі час, што рок-н-рол будзе адыходзіць у гісторыю, то мы — сапраўдныя аматары музыкі, сцвярджаем: у Магілёве ён памрэ апошнім.

Вячаслаў БАЧАРАЎ.
г.Магілёў.

---

# СЫХОДЗІМ СА ШЛЯХОЎ ІЛЬІЧА...

Прыгожай зімовай раніцай ехалі мы ў калгас «Шлях Леніна». Там адбываўся справаздачны сход калгаснікаў. Мы — члены ўправы Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Ганна Сурмач — старшыня, Лідзія Савік, Сымон Белы і Таццяна Мархель, аўтарка гэтых радкоў. І праз колькі хвілін сядзелі мы ў прэзідыуме і на працягу трох-чатырох гадзін слухалі пра надзённыя калгасныя справы. А было гэта вельмі цікава. Трынаццатым пытаннем парадку дня было наша пытанне: перайменаваць калгас «Шлях Леніна» ў «Бацькаўшчыну». Гэта была мая прапанова на I з'ездзе беларусаў свету, прынятая з'ездам весела і гарэзліва. І вось гэта здарылся: калгас перайменаваны, перададзены беларускія кнігі, старшыня калгаса спадар Міхась Есмантовіч уручыў падарункі лепшым калгаснікам.

На развітанне я праспявала некалькі вясельных абрадавых песень, і ў добрым настроі вярталіся мы назад.

Радашковічы — прыгожыя краявіды. І гутарылі мы аб тым, якая шчодрая гэтая зямля на добрых людзей: жонка Тарашкевіча, першы рэдактар «Нашай Нівы» Аляксандр Уласаў і г.д. А цяпер тут будзе яшчэ і калгас «Бацькаўшчына». А праз тыдзень ехалі калгаснікі ў тэатр. «Вольная сцэна», дзе іх чакаў вадэвіль па п'есе Галубка і Л.Родзіевіча і дзе заўсёды ім будуць пакінуты месцы.

Добрай дарогі і шчасця табе, «Бацькаўшчына»!

Таццяна МАРХЕЛЬ.

Барыс Крэпак

# ЗАБІТЫ ДВОЙЧЫ...

## Роздум, факты, дакументы пра творчасць Р.М. Семашкевіча.

*Зусім нечакана ў ноч на 2 лістапада 1937 года яго арыштавалі. Пасадзілі ў «чорны варанок» і павезлі. Затым з апячатанай маскоўскай кватэры мастака чэкісты канфіскавалі больш за 300 яго карцін, падрыхтаваных да чарговай персанальнай выставы па выніках творчай паездкі ў родную Беларусь. Без вопісу, без пратакола, без панятых. Як склаўся лёс карцін? Гэта дасюль невядома. Пошукамі палотнаў безвынікова займаецца ўдава жывапісца Надзея Міронаўна Васільева вось ужо болей чым паўвека. Праўда, КДБ прызнаў «арыштаванымі» толькі 173 творы. Аднак і іх ёй не вярнулі. Дзе яны? І дзе магіла гэтага чалавека?*

«Асуджаны без права перапіскі» — спачатку адказвалі Васільевай на бясконцыя запыты пра мужа. А ў 1958 годзе выдалі даведку пра яго рэабілітацыю. Праз 32 гады яна даведалася, што яе муж, Раман Мацвеевіч Семашкевіч, быў расстраляны ў снежні 37-га на Лубянцы, праз паўтара месяца пасля арышту. Без суда. Па пастанове «тройкі» пры Упраўленні НКУС СССР. Абвінавачваўся — у «актыўнай контррэвалюцыйнай фашысцкай агітацыі, ухваленні фашысцкага парадку і выказванні варожасці ў адрас кіраўнікоў ВКП(б) і савецкага ўрада». Праверкай устаноўлена, што крымінальная справа на Р.Семашкевіча была цалкам сфабрыкавана супрацоўнікамі НКУС.



Прачкі на беразе Прыпяці. Туш. 1932.

Як паведамілі з КДБ у маі 1990 г. у матэрыялах справы Семашкевіча «ёсць вопіс карцін, канфіскаваных пры вобыску 19 снежня 1937 г. Ёсць таксама акт пра перадачу ў 1940 г. усіх канфіскаваных карцін з НКУС у Дзяржфонд... Ёсць запіс пра накіраванне ўсіх карцін на базу Маскупраўгандлю... Устанавіць месцазнаходжанне карцін не ўдалося».

На гэта Надзея Міронаўна адказала: «Скажэнне фактаў! Ні ў час арышту мужа, ні ў час канфіскацыі ягоных карцін ніякага вопісу не рабілася. Усё адбывалася ў маёй прысутнасці. Дакумент, на які спасылаюцца органы КДБ, быў складзены 23 чэрвеня 1940 г. — праз два з паловай гады. Каму спатрэбілася гэтая фальсіфікацыя?»

Так Раман Семашкевіч быў забіты ў другі раз...

Яшчэ тры гады назад імя гэтага мастака было вядома, мабыць, толькі пазамінуламу пакаленню інтэлігенцыі. Адразу нібыта і зразумела: усяго сем гадоў было дадзена майстру для творчасці пасля атрымання адукацыі. Але справа ў тым, што Семашкевіч быў не проста мастаком імярэк — гэта быў талент рэдкі, выдатны. Увабраўшы ў сябе непасрэдна ад знакамітых папярэднікаў нібы самую сарцавіну той вытанчанай культуры, што так магутна выплеснулася ў сусветным мастацтве на пачатку стагоддзя, Семашкевіч літаральна ашаламіў сучаснікаў і шчодрасцю свайго даравання, і высокай мастацкай культурай, якая была чужая сухой пратакольнасці і натуралістычнай апісальнасці, і бляскам майстэрства, і незвычайнай працаздольнасцю. Ён быў з тых мастакоў, хто «жыў і працаваў» па той бок 30-х гадоў, чалавечай мясарубкі, у якой знікла столькі тых, хто меў права называцца простым словам «геній». Іх імёны часта вядомыя толькі на Захадзе. Сёння, дзякуй Богу, яны вяртаюцца і да нас.

Семашкевіча прымалі і ўхвалялі мастакі знакамітай «Групы 13». Пра яго гаварылі, як пра новага Маціса або Маркэ. Найбуйнейшыя дзеячы літаратуры і мастацтва былі гарачымі прыхільнікамі яго яркага, самабытнага таленту: Я.Купала, Я.Колас, С.Герасімаў, В.Катаеў, А.Дайнека, Ю.Алеша, К.Паўстоўскі, У.Татлін, І.Ільф, Д.Штэрэнберг... У сваіх успамінах мастак У.Мілашэўскі пісаў: «... Вядома, ён (Семашкевіч) ніяк не падыходзіў да «агульнай лініі»... Ён быў як нейкі «самародак», выявіцель у чыстым выглядзе, з якога вылазілі самі па сабе, выліваліся, нібы з меха, каштоўнасці бачанняў, фарбаў, вобразаў. Ён быў з'явай...»

А вось што пісала пра Семашкевіча Т.Маўрына: «У яго атрымліваліся палотны, якія хацелася мець у сябе дома, і не мне адной. Ён неяк адразу стаў марай калекцыянераў».

Н.Васільева ўспамінае, што свае работы мастак пакідаў дзе даводзілася, раздорваў направа і налева. Яму было важна іх напісаць. Астатняе яго не клапаціла. Так, сапраўды, у яго куплялі карціны і малюнкі, але прадавалася ўсё за грашы. Семашкевіч па натуры сваёй быў вельмі добрым чалавекам, любіў птушак і звяроў, дзяліўся з людзьмі апошняй крохай. Ніколі нічога не меў, ніколі нічога не прасіў. На адной з выстаў 1932 года Дайнека сказаў яму: «Раман, я запісаў цябе ў МОССХ». «Запісаў — і добра», — адказаў яму мастак. Да гэтага на сваёй персанальнай выставе Раман Мацвеевіч паказаў звыш 300 унікальных твораў! Яны былі выдатныя па самым вялікім рахунку, і было ў іх аўтара наперадзе цэлае жыццё... Дакладней — цэлых шэсць гадоў працы да ночы арышту.

Раман Семашкевіч нарадзіўся ў мястэчку Лебедзева ў Заходняй Беларусі ў шматдзетнай сялянскай сям"і, у якой — цяжка нават уявіць! — выхоўвалася 16 дзяцей! Бацька яго працаваў садоўнікам у пана. Дзеці раслі сярод лугавых кветак і вялізнага фруктовага сада, памяць пра які захавалася ў Семашкевіча на ўсё жыццё. Магчыма, прыгажосць наваколля і абудзіла ў Ромы пачуццё любові да гармоніі ў прыродзе. Ён увесь час маляваў: з-за таго, што не было фарбаў, ён навучыўся маляваць сокам, выціснутым з кветак. Захапленне мастацтвам перайшло ў страсць, і ў хуткім часе Семашкевіч, пакінуўшы бацькоўскі дом, апынуўся ў Вільні. Тут паралельна з вучобай у гімназіі ён браў урокі жывапісу ў мастацкай студыі Браніслава Тарашкевіча. Такім чынам, аўтар першай «Беларускай граматыкі для школ» стаў для Семашкевіча і першым настаўнікам у мастацтве. Сваю прафесійную адукацыю ён працягваў у Віцебску: у 1924 годзе ён паступіў на скульптурнае аддзяленне мастацкага тэхнікума.

У Дзяржаўным архіве Віцебскай вобласці, у фондзе 837, захаваўся імянны спіс студэнтаў гэтага тэхнікума, дзе фігуруюць трэцякурснікі 1925 года: Р.Семашкевіч, З.Мірынгоф, В.Паўлоўскі, В.Дзежыц, І.Рабушкін, А.Капыскі, В.Загорскі, М.Пашкевіч, які цяпер жыве ў ЗША. Старэйшымі па курсе былі З.Азгур, А.Волкаў, М.Гусеў, а малодшымі — А.Бембель, Г.Ізмайлаў, А.Арлоў, М.Беляніцкі і М.Манасзон, якія потым сталі вядомымі майстрамі разца і пэндзля.

У тэхнікуме Семашкевіч браў актыўны ўдзел у стварэнні мастацкай секцыі пад назвай Філіял «Маладняка». Секцыя за кароткі час здолела арганізаваць шэраг экспедыцый для занатовак архітэктурных помнікаў Віцебшчыны, узораў нацыянальнай вопраткі, прадметаў народнай творчасці, а таксама выставу ілюстрацый у акварэлі.

Ішоў 1927 год. Пасля заканчэння тэхнікума Семашкевіч быў накіраваны ў Маскву, ва Усерасійскі мастацка-тэхнічны інстытут — ВХУТЕИН, але ўжо на жывапісны факультэт. Тут было мноства майстэрань і амаль кожная з іх мела свой ярка акрэслены характар. У майстэрні Р.Фалька панаваў дыктатарскі дух. Фальк ажыццяўляў усю паўнату ўлады і патрабаваў ад студэнтаў безумоўнай пакорлівасці, ад чаго многія пайшлі да Д.Штэрэнберга — Дорахаў, Лебедзева, Хазанаў, якія сталі сябрамі Семашкевіча. У майстэрні Шаўчэнкі пастаноўкі мелі прадметна-сюжэтны характар. Майстэрня Д.Кардоўскага, дзе вучыўся Семашкевіч, была захавальнікам акадэмічных традыцый з крыху мадэрнісцкім ухілам у бок Лансэрэ. Сам Кардоўскі быў вельмі прыгожым чалавекам: арліны нос, сівая кучаравая барада, вогненныя выразныя вочы. Артыстычная панама, штаны «гольф», цірольскія панчохі і цяжкія чаравікі завяршалі гэты элегантны вобраз.

Семашкевіч, як і ўсе яго таварышы, насіў кашулю з адкрытым каўняром, закасанымі рукавамі і гальштук, які ўяўляў сабой у той час непрыхаваны выклік грамадству. Такая была тады абавязковая уніформа вхутэінаўца.

Працавалі яшчэ майстэрні П.Кузняцова, П.Канчалоўскага і П.Малікава. Сакурснікамі Семашкевіча былі І.Іваноўскі, С.Бушынскі, Т.Лебедзева, К.Дорахаў, А.Рзакуліеў, М.Гурэвіч, які загінуў у Вялікую Айчынную і стаў Героем Савецкага Саюза. Атмасфера, якая панавала ў майстэрні Кардоўскага, была на рэдкасць прывабная. Шмат гаварылі і спрачаліся пра мастацтва. Не было на мальбертах падобных адна да адной работ, панавала дзіўная разнастайнасць у параўнанні з іншымі майстэрнямі. Асаблівы інтарэс выклікалі яркія, вельмі шчырыя і жыццярадасныя работы Семашкевіча — пейзажы і партрэты, малюнкі вугалем і тушшу. Узроставы і сацыяльны склад студэнтаў быў надзвычай стракаты. Многія прыйшлі ў інстытут з франтоў грамадзянскай вайны. Шмат было студэнтаў з далёкіх ускраін Расіі, вялікі працэнт складалі рабфакаўцы, іх узрост вагаўся ад васемнаццаці да сарака і болей гадоў. Бытавая неўладкаванасць студэнтаў, цяжкое і беднае жыццё ў вялізным і змрочным комплексе інтэрнатаў на Мясніцкай нараджалі сярод часткі студэнцтва песімістычны настрой, звязаны з так званай «ясенінШчынай», нэпам. Праўда, Семашкевіча гэты настрой амаль не крануў, бо галоўным для яго было — працаваць, не зважаючы на голад і холад.

В.Алфееўскі (сакурснік Семашкевіча): «Жывапісам мы займаліся раніцай з 9 да 12. Увечары — малюнак з 6 да 8. На працягу дня — лекцыі і заняткі па перспектыве, тэхналогіі матэрыялаў, гісторыі мастацтваў. Разыходзіліся па музеях... Часта хадзілі ў Музей заходняга жывапісу, вывучалі Сезана, захапляліся строгасцю яго формы, яго бескампраміснасцю. Пасля заняткаў мы звычайна ўладкоўваліся на вялізнай старажытнай канапе з карэльскай бярозы, а то і проста на падлозе і расстаўлялі свае зробленыя за дзень работы. Гэта былі сапраўдныя творчыя абмеркаванні, сур'ёзныя, але добразычлівыя. Калі, разглядаючы накіды таварыша, мы, скажам, гаварылі, што яны нагадваюць каго-небудзь крыху ніжэй за Рэмбранта або Тулуз-Латрэка, то гэта ўспрымалася ледзь не абразай. Можа быць, у гэтым была і свая праўда. Ставячы перад сабой недасягальныя мэты, мы часам у самай малой ступені набліжаліся да сапраўднага, не даючы сабе ніякай палёгкі ў выглядзе заніжаных крытэрыяў, якія маглі б наталіць нашае самалюбства».



Р.Семашкевіч.

Вучыўся Семашкевіч упарта, апантана. Дапамогі — ніадкуль ніякай. Бацькоўскі дом — за кардонам. За дзень з'ядаў 200-грамовую булачку і выпіваў пляшку рыбінага тлушчу. Урэшце, ён заўсёды быў па-за інтарэсамі якога б там ні было быту. Як успамінае Н.Васільева, Раман «заўсёды жыў як птушка нябесная, не ведаючы, што будзе есці і піць, ува што апранацца. Толькі адна была яго стыхія — мастацтва... Сваёй знешнасцю ён хутчэй нагадваў рабочага. Ён быў атлетычнага складу, невысокага росту, быў гранічна маўклівы. Уся ягоная фігура выпраменьвала сілу. Русыя, злёгку кучаравыя валасы, крутыя дугі брывей, адкрыты лоб. Прыгожымі былі ў яго рукі — гнуткія, моцныя. Яны стваралі цуд».

Блізкі сябра Семашкевіча Б.Рыбчанкоў успамінае: У «Групе 13», якая вызваляла мастака ад забабонаў славутай акадэмічнай завершанасці, Раман з'явіўся ў канцы 1929 года. «Прыціраўся» ён да нас з цяжкасцю. Больш памоўкваў, у тым ліку і пра сябе. Абражаны ўсімі за «скажэнне» вобразаў трактарыста, агітатара, савецкай рэчаіснасці наогул і як удзельнік выстаўкі «Групы 13», Раман не змірыўся. Ён усё так жа настойліва працягваў пошукі сваёй праўды... Раман быў унікальны ва ўсім. Складаны супярэчлівы ягоны характар быў падобны на незямны талент, які сваёй сутнасцю звяртаўся да вытокаў народнай творчасці. Зыходным матэрыялам, які сілкаваў тады памкненні Семашкевіча, былі лубкі, народныя карцінкі, вышыўкі, разьба па дрэве. Да гонару Рамана, ён не толькі не «цытаваў» народную творчасць, але імкнуўся глыбінна пранікнуць у ейную пластыку, рытм, колеравыя рашэнні. У гэтым накірунку ён дасягнуў немалога».

*(Заканчэнне будзе)*



Завулак у Замаскварэччы. Алей.

# ЦЮБІНГЕНСКІ КАЛЁКВІУМ ПА БЕЛАРУСІСТЫЦЫ

*З 20 па 21 лістапада 1993 года ў Інстытуце гісторыі і краязнаўства Усходняй Еўропы Цюбінгенскага універсітэта адбыўся калёквіум на тэму «Беларусь. Гісторыя і сучаснасць». Яго здзяйсненне сталася магчымым дзякуючы ініцыятыве супрацоўніка гэтага Інстытута Райнэра Ліндnэра і было скіравана на тое, каб перш за ўсё даць мажлівасць маладым навукоўцам ды й іншым спецыялістам нямецкамоўнага рэгіёна, што цікавяцца беларускай тэматыкай, атрымаць уяўленне пра сённяшні стан беларускіх даследаванняў у нямецкай гістарычнай навуцы. На жаль, кола ўдзельнікаў не перавысіла дзевяці дакладчыкаў, да якіх далучыліся ў якасці крытычнай публікі супрацоўнікі і студэнты Інстытута.*

Прафесар Дзітрых Гайер, дырэктар Інстытута, у сваёй прывітальнай прамове падкрэсліў узрастаючую цікавасць да гістарыяграфіі Беларусі, зарыентаванай на нацыянальную і дзяржаўна-гістарычную праблематыку. Пасля таго як ён закончыў свой кароткі, але дзелавы выступ заклікам да навуковага супрацоўніцтва паміж нямецкімі і беларускімі гісторыкамі, ініцыятыва перайшла ў рукі арганізатара гэтага мерапрыемства Райнэра Ліндnэра, які пазнаёміў прысутных з праграмай работы калёквіюма. Першым, хто распачаў серыю спавешчанняў, быў Паўль Сутэр з Цюрыха (Швейцарыя), які зрабіў даклад па тэме дысертацыі «Пісьмовасць літоўскіх татараў». У сваім даследаванні, якое ўключае пераклад на беларускую мову як Карана, так і свецкіх тэкстаў XVI — XVIII стагоддзяў, Сутэр прызнаў уплыў беларускай гутарковай мовы, але толькі на свецкія тэксты, з чаго, аднак, нельга зрабіць выснову, ці карысталіся ёю перапісчыкі сістэматычна альбо функцыянальна. Пры дапамозе некаторых урыўкаў з тэкстаў і спробных водціскаў шрыфтоў удзельнікам калёквіума было пераканаўча паказана, як перадавалася спецыфічнасць беларускіх гукаў і іх камбінацый праз арабскі алфавіт.

Моніка Банькоўская (таксама з Цюрыха) выступіла з тлумачэннямі да сваёй каментаванай бібліяграфіі мемуараў заходне-еўрапейскіх падарожнікаў, што пісалі ў XVI — XX стагоддзях пра Беларусь. Яна, на думку аўтара, можа стацца таксама добрай крыніцай для даследавання пытання пра фармаванне і традыцыю заходніх стэрэатыпаў пра Беларусь.

Уршула Крысевіч (Цюбінген) у сваім паведамленні «Ідэнтычнасць і этнічная разнастайнасць ва ўсходняй Польшчы. Вывучэнне горада» на прыкладзе шматэтнічнага і шматкультурнага горада Беластока засяродзіла ўвагу на метадалагічных пытаннях этналагічнага даследавання. Спавешчанне Райнэра Ліндnэра (Цюбінген) па дысертацыі «Беларусь у люстэрку свайго гістарычнага асэнсавання: да праблемы нацыянальнай ідэнтычнасці ў XX стагоддзі» было прысвечана важнейшым тэндэнцыям беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі ад часу Першага адраджэння, з асаблівай увагай да сучасных дыскусій, што разгарнуліся па пытаннях гістарыяграфіі і гістарыясофіі.

Да яшчэ менш даследаваных праблем беларускай гісторыі звярнулася Дзіяна Зіберт (Кёльн), раскрываючы сутнасць сваёй дысертацыі ў выступленні «Сялянства Беларусі ў міжваенны час». У ім аналізуюцца праблемы хутароў у заходняй частцы БССР напярэдадні і пасля калектывізацыі. На падставе глыбокага вывучэння разнастайных матэрыялаў у Мінскім ды іншых архівах грунтуецца даклад па дысертацыі Бернхарда Кіары (Франкфурт-на-Майне) «Нямецкая грамадзянская адміністрацыя на Беларусі 1941-1944 гг.», які, у адрознасць ад вядомага даследавання Ю.Туронка, пасля беглага разгляду нямецкіх крыніц, што тычацца ваенна-гістарычных аспектаў акупацыі, раскрывае дэталі і падрабязнасці штодзённага грамадскага жыцця падчас акупацыі ды аналізуе адносіны, што склаліся паміж акупантамі і акупаванымі.

Нядаўняму мінуламу аддае ўвагу ў сваім дакладзе Астрыд Заам (Франкфурт-на-Майне), дзе ў скарочаным выглядзе перададзены вынікі яе магістарскай работы «Важнейшыя арганізацыйныя моманты беларускага нацыянальнага руху 1986 — 1991гг. з улікам палітычных вынікаў Чарнобыльскай аварыі», якая толькі што выйшла з друку. Акрамя таго, у ім раскрываюцца і мэты яе дысертацыйнай работы «Новага Чарнобыля не будзе? Паліталагічны аналіз энерга-эканамічнай і экалагічна-палітычнай дзейнасці Украіны і Рэспублікі Беларусь і яе значэнне для нацыянальна-дзяржаўнага суверэнітэту і міжрэгіянальнага супрацоўніцтва».

Навуковыя рамкі праграмы былі вычарпаны раскрыццём праекта, які звязаны, галоўным чынам, з практычнымі пытаннямі нямецка-беларускіх узаемадачыненняў. Урзула Гайнэке (Браўнфэльс) і Ульрых Мюленц (Вэцлер) паведамілі пра ўтварэнне ўлетку 1993 года на аснове евангельскай «Канторы Вэцлер» Нямецка-беларускага таварыства «Калі ласка — Вількомен!», якое ставіць сваёю мэтай служыць паразуменню паміж народамі Нямеччыны і Беларусі, а таксама дапамозе і падтрымцы на Беларусі культурных, навучальных і навуковых арганізацый, асабліва ў пародненым горадзе Віцебску.

Цюбінгенскі калёквіум, поспеху якога не ў малой ступені садзейнічалі не толькі даклады і актыўная дыскусія, але і шчырая і таварыская атмасфера абмену думкамі, выклікаў ва ўсіх удзельнікаў жаданне працягнуць арганізацыю падобных навуковых абмеркаванняў — па магчымасці з удзелам гісторыкаў з самой Беларусі.

**Моніка БАНЬКОЎСКАЯ.**

# СУПРАЦЬ ЧАЛАВЕЧАГА РАЗ'ЯДНАННЯ

НА ПЫТАННІ: чаму ў сваім імкненні да чужога сэрца мы часта не адчуваем крокаў насустрач, чаму ў нас няма жадання прыняць права іншага на самастойнае разуменне жыццёвых прыярытэтаў, у рэшце рэшт, чаму, нават размаўляючы на адной мове, мы не разумеем сэнсу, а часцей проста не жадаем слухаць адзін аднаго, — адказы могуць быць розныя. Асабіста я бачу прычыну ў тым, што нашыя страты ў галіне культуры аказаліся вельмі значнымі. Гэта адчуваецца як на ўзроўні простых чалавечых зносін, так і культуры як сферы жыццесваральнай, закліканай задавальняць патрэбы духоўныя.

Менавіта культуру ва ўсіх формах я разглядаю як неабходную ўмову развіцця нашага грамадства, захавання міру і спакою ў ім і вызначэння шляху да вяршынь духоўнага адраджэння. Сцвярджаючы гэта, я зыходжу з меркавання, што чалавек не існуе сам па сабе. Ён — грамадская істота і жыве не толькі сярод іншых, але — і для іншых, і ён залежыць ад іншых. Таму ён проста вымушаны знайсці паразуменне з гэтымі «іншымі».

Умовы для гэтага паразумення складаліся гістарычна, і «спосабы» выпрацоўваліся «безадпрэчныя». З цягам часу яны аформіліся ў асобны раздзел навукі чалавечых узаемаадносін, які атрымаў назву — этыка. На адной тэрыторыі, памежнай для розных этнічных груп, адзіныя правілы ўзаемаадносін прымалі ўсе. Яны станавіліся нарматыўнымі для ўсёй супольнасці, незалежна ад асаблівасцяў псіхалагічных і адрознасцяў у ладзе жыцця.

Гэтыя правілы выпрацоўваліся на працягу стагоддзяў. Яны складаліся ў традыцыі. Традыцыі арганізоўвалі грамадства. Калі яны прымаліся ўсімі членамі супольніцтва — існавалі мір і раўнавага ў дзяржаве. Адмаўленне ад нормаў прыводзіла да парушэння гэтай раўнавагі і ў асабістых адносінах паміж людзьмі. Невядомыя народы, у нормах традыцый якіх было такое, што спрыяла б непаразуменню на чалавечым узроўні, спрэчкам ці бойкам. Хутчэй наадварот. Інстынкт захавання жыцця, існавання роду дыктаваў неабходнасць павагі да чалавека незалежна ад таго, на якой мове ён размаўляе і звяртаецца да цябе, ці адрозніваецца ад цябе колерам валасоў і абліччам наогул.

Здаецца, менавіта такую культуру — культуру традыцыйных узаемаадносін, мы паступова страчваем. Штосьці яшчэ захоўваецца як асобныя нормы ў групах і калектывах, злучаных агульнымі мэтамі і зніатаваных адзінымі інтарэсамі. Таму не дзіўна, што ў наш час пачалі актыўна ствараліся розныя аб'яднанні. Для людзей яны — нібы тая ніша, у якую можна схавацца ад бязладдзя і сярод аднадумцаў знайсці паразуменне.

Тыя, хто марыць аб нацыянальным адраджэнні і аб захаванні супольнай культуры і гістарычных традыцый, пачалі аб'ядноўвацца ў культурна-асветныя таварыствы. Яны ўзніклі на прыканцы 80-х — пачатку 90-х гадоў. У 1989 годзе былі зарэгістраваныя гарадское культурнае аб'яднанне татар-мусульман Беларусі «Аль-Кітаб», Беларускі цэнтр нямецкай культуры, польскае культурна-асветнае таварыства «Палонія». У гэты ж час паўсталі беларуска-азербайджанскае таварыства «Габустан», асацыяцыя ўкраінцаў Беларусі «Ватра», Мінскае культурна-асветнае таварыства ўкраінцаў «Заповіт», Мінскае культурна-асветнае таварыства гэбраяў імя Ізі Харыка, армянскае культурна-асветнае таварыства «Аястан», культурна-асветнае аб'яднанне расейцаў Беларусі «Русь», суполка «Малдова». Першая сустрэча прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў адбылася ў 1992 годзе ў канферэнц-зале Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі. У канцы 1993 года ладжанне такіх сустрэч было перанесена ў выставачную залу Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі.

15 кастрычніка 1993 года Нацыянальны музей, Акадэмія навук (ІМЭФ), пасольства Украіны на Беларусі, грамадскія і дзяржаўныя арганізацыі адкрылі выставу выяўленчага і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва сяброў украінскай суполкі «Ватра». 8 лістапада, таксама вельмі прадстаўніча — выставу армянскага культурна-асветнага таварыства «Аястан», а 25 лістапада —аб'яднання «Палонія» ў Мінску. 21 студзеня ўжо гэтага года адкрылася выстава мінскага гарадскога таварыства расейскай культуры «Русь».

Трэба сказаць, што гэта былі незвычайныя выставы. Не тыя, знаёмыя па ранейшых гадах нашага жыцця ў адзінай звышдзяржаве, якія дэманстравалі «заваёвы» і «дасягненні». Яны пакінулі іншае адчуванне — блізкасці і адзінства прыхільнікаў супольнай культуры. Нікога не палохала, што нацыянальная культура прадстаўлена рознымі па характары стыляў напрамкамі прафесійнага станковага, дэкаратыўна-ўжытковага і самадзейнага мастацтва ў адной экспазіцыі, побач і ў адной зале. Той, хто бачыў гэтыя выставы, здолеў упэўніцца, што народнае і прафесійнае мастацтва добра выглядаюць разам. Такія пытанні не паўставалі, таму што за экспанатамі прафесійных мастакоў, якія згадзіліся, каб іх творы былі паказаны побач з творамі аматараў, бачыўся вялікі сэнс адзінства ў адчуванні прыроды мастацтва і ягонага прызначэння ў жыцці чалавека. Мастацтва сталася знакам духоўнага адзінства.

Выставы ўкраінскай, армянскай, польскай суполак, якія будаваліся па прынцыпах любові да той ці іншай культуры, а не нацыянальнай прыналежнасці, «маніфеставалі», «дэманстравалі» супраць чалавечага і нацыянальнага раз'яднання, а таксама адцурання ад народнай і нацыянальнай культуры. Мы ўбачылі, як шмат агульнага ў нашых марах, ідэалах, памкненнях. І каб у гэтым упэўніцца, нам трэба ўсяго толькі лепш ведаць адзін аднаго, ведаць сваю культуру і культуру народаў, з якімі жывем побач не першае стагоддзе. Выставы культурна-асветных таварыстваў будуць спрыяць гэтаму спасціжэнню. Таму першыя з іх у рамках цыкла «Нацыянальныя супольнасці Беларусі» мы бачым як пачатак далейшых не менш цікавых сустрэч з братнімі культурамі ў розных музеях і галерэях, на канцэртных пляцоўках, на дыспутах і канферэнцыях.

**Людміла МАЛЕНКА.**

# «ЗЯМЛЯ — НАША АГУЛЬНАЯ МАЦІ»



... З вялікім задавальненнем гляджу заўсёды па Беларускім тэлеканале праграму пад рубрыкай «Сугучча», бо ведаю напэўна: мяне абавязкова чакае сустрэча з цікавым суразмоўцам. І на гэты раз я не памыліўся — у праграме, якая называлася «Народы Беларусі: гісторыя, культура, традыцыі» браў удзел Яўген Гучок. Гэта імя не было для мяне новым, бо неаднаразова сустракаў ягоныя артыкулы на старонках «Культуры» і іншых выданняў у абарону нашай роднай мовы.

... Чамусьці мы традыцыйна звязваем лексіку беларускай мовы, яе выразы і словазлучэнні менавіта са славянскімі мовамі, часцей за ўсё з рускай і ўкраінскай. Можа, надышоў час зірнуць у іншым напрамку? Асабіста мне падалася вельмі цікавай сувязь беларускай мовы з мовамі фіна-ўгорскай групы, пра якую распавёў у перадачы Я.Гучок. Якое дачыненне, здавалася б, мае Беларусь да Фінляндыі ці Карэліі? Але, аказваецца, беларуская вёска Абольцы, што знаходзіцца ў Віцебскай вобласці, абавязана сваёй незвычайнай, такой не падобнай да іншых тапонімаў, назвай старажытнаўгорскаму «обаль» ("яблык"). З гэтага лагічна вынікае, што ланцуг словаў «обаль — Абольцы — Абаленскі» мае аднолькавы, але зусім не славянскі корань. Хіба не цікава? Таксама навінаю былі для мяне звесткі аб тым, што такое, здавалася б, рускае слова, як «віцязь» і назвы «Віцьба», «Віцебск», маюць адно і тое ж карэла-фінскае паходжанне.

...Як незвычайна пераплецены часам лёсы нацый і шчыльна знітаваныя з імі лёсы асобных людзей! Арына Радзiёнаўна, якой А.С.Пушкін прысвяціў свае прачулыя радкі, што даўно ўжо сталіся хрэстаматыйнымі, была беларускаю, а муж яе — Фёдар Мацвееў — паходзіў з беларускіх карэлаў. Сапраўды, як адзначыў Я.Гучок, «зямля — наша агульная маці»...

... Мне вельмі падабаюцца публікацыі «Культуры», прысвечаныя напаўзабытым сёння народным рамёствам, традыцыйным побытавым абрадам, фальклору. Але хацелася б, каб і іншыя нацыі і народнасці (нават такія нешматлікія, што налічваюць на Беларусі толькі некалькі тысяч жыхароў), чый лёс стаў неад'емнай часткаю гістарычнага лёсу нашай Бацькаўшчыны, не заставаліся па-за ўвагай вашай газеты і яе аўтараў. На маю думку, гэта было б справядліва і карысна. Для ўсіх.

**Генадзь КАТОВІЧ.**

г.Слуцк.

Вось і прыйшла Масленка, якую мы ледзь заўважаем за тлумам сённяшняга жыцця. Дзякаваць Богу, ведаем, калі прыходзяць Каляды, а што датычыцца іншых святаў, тут справа больш складаная. Многія вучоныя адзначалі, што ў большасці сваёй прамежкі паміж святамі складаюць каля 40 дзён. Чалавек нібыта мае патрэбу атрымаць своеасаблівае ачышчэнне, правесці шэраг абрадаў і дзеянняў, якія мусяць зберагчы яго ад нядобрых сіл. Асабліва небяспечным лічыўся заўсёды так званы сумежны перыяд. На прадвесні, калі прыходзіла Масленка, цяжка было ўжо з хлебам у селяніна, абвастраліся хваробы, і наогул, гэты перыяд лічыўся вельмі напружаным. Але ж Масленка была яшчэ і своеасаблівым святам сілы, моцы фізічнага і псіхалагічнага здароўя чалавека, што адолеў і агораў Зіму, дачакаўся яе канца, надыхода Вясны.

У большасці выпадкаў Масленіцу разглядалі як маргінальную з'яву. Лічылася нават, што на Беларусі яе зусім не святкавалі. Аднак даследчыцкая работа паказвае, што наша Масленка не бяднейшая за рускую. Яна захавала ў комплексе больш старажытных элементаў. Менавіта наша Масленка захавала і старажытную назву «Валоссе» — у гонар язычніцкага боства Вялеса (Воласа).

Масленіца — адзінае з язычніцкіх святаў, адносна якога вучоныя не прыйшлі да агульнай думкі, куды яго аднесці: ці да вясновага, ці да зімовага цыкла. Часам яна разглядалася як пярэдадзень вясны. На наш погляд, апошняе больш блізка да сапраўднага зместу свята, хаця нават і гэта не можа вызначыць усю складанасць, шматсэнсавасць, што з'явілася вынікам рознага роду напластаванняў. Наяўнасць у беларусаў ясна акрэсленага і цудоўна развітага веснавога цыкла, строгае захаванне ў язычніцтве абрадавай паслядоўнасці, як адлюстравання касмічных перыядаў і прыродных змен, што не дазвалялі парушаць межы сакральнага часу, сведчыць пра тое, што Масленка адзначалася ў народзе на прадвесні. Гэта знаходзіць пацвярджэнне ў разнастайным фальклорным матэрыяле. Як сведчанне таму — прымаўка: «Масленка — бела вутка, гаварыла вясна: буду, ды не хутка».

Мяркуюць, што Масленіца святкавалася калісьці ў гонар язычніцкага боства Вялеса. Вялес быў адным з найбольш «паважаных» багоў у старажытнасці. На думку некаторых вучоных, Пярун быў богам князевай дружыны, Вялес — своеасаблівым «народным» боствам, менш афіцыйным. У Вялеса мелся цэлы шэраг функцый: ахоўнік памяці продкаў, апякун статка і наогул усялякай жывёлы, у тым ліку і дзікай, памочнік пастухоў. Ён спрыяў ураджаісці нівы, павелічэнню сям'і, але галоўная яго «справа» — апякунства статка, жывёлы. Як сведчаць старажытныя летапісы, калісьці свойскай жывёлай вызначалася багацце абшчыны. Казна ў былыя часы называлася «скотніцай». У лютым праходзіў ацёл і акот свойскай жывёлы, статак папаўняўся, а стол селяніна станавіўся багатым на малако, масла, сыр, стравы, гатаваныя на малацэ. А свята, як вядома, сустракаюць тым, на што багаты цяпер селянін і ягоная гаспадарка. Бо, як кажуць, «дробнае» мяса было пад'едзена на Каляды, а скварку і вяндлінку трэба было прыхаваць на той час, калі пачнецца вялікая праца ў полі, на сенакосе. Малако і сыр — добра, але ж, кажуць, што «па малаку і ногі не павалаку». Мажліва, што адным са шляхоў семантычнага дэкадзіравання назвы «Масленіца» была бытавая рэальнасць — вялікая колькасць малака і малочных прадуктаў. Ёсць святы, падобныя да нашай Масленкі і ў іншых народаў Еўропы: Запусты, Мясапуст, Карнавал, Біла нядзеля.

Царква Масленку не адзначала, наадварот, Патрыярх і Папа скарацілі яе, як і

ПОБЫТ НАШЫХ ПРОДКАЎ

# МАСЛЕНІЦА



Карнавал, да аднаго тыдня, бо лічылі гэтыя святы «бесовскими» і «вар'яцкімі».

Папярэднічала Масленіцы так званая «Рабая нядзеля» ці «спляшная», калі дазвалялася ўжываць ежу малочную і скаромную. Пачыналася Масленка з «масленых дзядоў». Дарэчы, культ продкаў прысутнічае амаль у кожным абрадавым комплексе. На прадвесні, калі адыходзіла цяжкая зіма, атаясамленая са смерцю ўсяго наваколля, надыходзячае веснавое аднаўленне прыроды нагадвала пра сувязі паміж жывымі і мёртвымі. Калісьці шанавалі сваіх продкаў, памяталі пра іх і ў святы, і ў ліхую гадзіну. Язычнікі верылі, што разам з цяплом, травамі, кветкамі і птушкамі на зямлю вяртаюцца душы памерлых, якія будуць спрыяць жывым, і давалі ім тое, што перш-наперш неабходна чалавеку — ежу. Першы блін звычайна клалі на «духавое» акенца, для душ продкаў, у некаторых мясцінах бліны клалі для «долі», атаясамліваючы долю і продкаў. Трэба адзначыць, што бліны, як звычайны праснак, з'явіліся раней за закваснны хлеб. Якія толькі бліны не пяклі на масленіцу: аржаныя, аўсяныя, з грэцкіх круп, бульбяныя, з тварагам, з канаплямі. Елі з маслам, смятанай, мёдам. У свята сыр, масла, малако, смятана і бліны не сыходзілі са стала. Масленічнае «меню» было вельмі разнастайным: бліны і ўсялякае печыва, арэхі, «заморскія» разынкі, якімі адорвалі дзяцей, што «спраўлялі» масленічныя абходы хат.

Добрая гаспадыня прыхоўвала сыр з Пятровак так, што ён не псаваўся. Нездарма спявалі: «А мы масленку сустракаем, сырам горкі набіваем, маслам горкі палівалі...» Зранку гаспадыня пякла аладкі па колькасці жывёлы, што мелася ў гаспадарцы. Аладкамі кармілі кароў, авечак, коней, каб былі гладкія і здаровыя. На Заходніх тэрыторыях гаспадыні ўпрыгожвалі рогі сваіх «Красуль» папяровымі кветкамі, верасам. Кароўка заўсёды была карміцельнай, і галоўны дзень Масленіцы «тлусты чвяртак» зваўся яшчэ «Каровіным святам». З прыняццем хрысціянства на месца Вялеса заступіў Улас, які таксама шчыра ставіўся да сваіх «абавязкаў». На абразах ён заўсёды абкружаны каровамі, авечкамі, конямі, як добры гаспадар. На Масленічным тыдні да ягоных абразоў у царкву неслі масла. Так і мовілі: «У Аўласа — барада ў масле». Вялікая ўвага ў час Масленіцы надавалася маладым, што ўзялі шлюб у мінулы мясаед. З прыходам свята для многіх заканчвалася халастое жыццё, іншым Масленка нагадвала, што і іх замужжа ці жаніцьба — недалёка. Тут прысутнічала шмат цырымоній. Выкуп за маладую, нават выкраданне дзяўчыны, што прыйшлася даспадобы хлопцу без дазволу і блаславення бацькоў, дазвалялася менавіта ў час Масленкі і не асуджалася абшчынай.

З песнямі абыходзілі хаты, дзе былі маладыя пары, жанчыны больш сталага ўзросту віталі маладую замужніцу, прымаючы яе ў новым сацыяльным статусе ў свой «жаноцкі саюз», негатыўным было стаўленне да маладзі, што мела ўжо шлюбны ўзрост і не ўзяла шлюб у дазволены час, тым самым не спрыяла ўрадлівасці ўсёй прыроды. Гэта знайшло адлюстраванне ў абрадах пад назвай «Калодка» і «Ваджэнне Княгіні». У даўнія часы проста завальвалі дзверы старому кавалеру велізарнай калодай, каб з хаты не мог вылезці, пакуль не адкупіцца, калода сімвалізавала сабой «няплоднасць»: як на сухой калодзе нічога не вырасце, так і чалавек, не ўзяўшы шлюбу, не прадоўжыць свой род на зямлі. Пазней «калодкай» сталі называць драўляныя цуркі, трэскі і стужкі-ланцужкі, што прывязвалі пацыху нежанатай моладзі да адзення. Каб зняць калодку, патрабавалі выкуп. Гэтыя абрады бяруць пачатак з тых часоў, калі абшчына строга кантралявала сямейна-шлюбныя адносіны, і ніхто, уступіўшы ў шлюбны ўзрост, не павінен быў заставацца без пары, бо нежанаты чалавек не лічыўся паўнапраўным членам абшчыны. Падобныя звычаі былі ў многіх народаў.

Па нашых звестках, толькі на Беларусі існаваў звычай «вазіць бабку». «Унукі» — усе тыя дзеці, якіх бабка калісьці прыняла, наведваюць і «возяць» яе, нагадваючы, што яе «пасада» ў абшчыне вельмі важная, і неабходнасць у ёй будзе заўсёды, асабліва цяпер, калі згулялі столькі вяселляў.

Цікавай і даволі распаўсюджанай была з'ява спальвання на развітанне Масленкі (пудзіла, зробленага з саломы на манер мужчыны ці жанчыны). У апошні дзень Масленіцы палілі ці загадзя падрыхтаванае пудзіла, ці проста рабілі вогнішча, куды людзі зносілі старыя саламяныя посцілкі на якіх спалі ўсю зіму, рыззё, старыя непатрэбныя рэчы, галлё. Лічылася, што менавіта такім чынам адбываецца ачышчэнне. Вялікая сіла агню знішчае ўсё дрэннае і цяжкае, хваробы, зло. Чалавек настройваўся на лепшае, чакаючы дабра ад новага перыяду ў жыцці ўсёй прыроды — Вясны.

Пасля спальвання пудзіла, попел раскідвалі на палі, каб яны былі больш урадлівымі. Масленка прыходзілася на пераломны перыяд, супадаючы з сакавіцкім навалецем. Такім чынам, праводзячы Масленку, па сутнасці праводзілі зіму, атаясамленую з Масленкай. Яе — разам з халадамі, цяжкасцямі, голадам і хваробамі спальвалі, яна брала на сябе ўсё благое, што было ў мінулым годзе. У той жа час Масленку трохі лаялі за тое, што яна «...абманшчыца, прылгецца хутка». Зіму праводзілі, катаючыся з гор на санках, на маразянках, на конях, выхваляючыся адзін перад адным маляўнічымі вазкамі. Наладжвалі скокі проста на вуліцы, на прытаптаным боцікамі снезе, нібыта хацелі набрацца весялосці, смеху, радасці наперад, на ўвесь вялікі пост з ягонымі забаронамі. Трэба адзначыць не простую весялосць, а нават своеасаблівую «агульную дазволенасць» усяго, што ў звычайны час магло выклікаць асуджэнне. Такія своеасаблівыя «аконцы» ў даволі строгім жыцці былі ў народным календары, захаваліся яны з далёкіх язычніцкіх часоў і добра прагладаюцца ў час Масленкі, Купалля, Русальнага тыдня.

Алена РАЙКОВА,
фалькларыст.

---

# ВЯСНОВЫЯ ЎСМЕШКІ

## ПАДМАНУТЫЯ НАДЗЕІ

Віяланчэліст Попер і піяніст Машкоўскі — два сябрукі-музыканты, аднойчы прагульваліся па вуліцах Вены. Славалюбны Попер чытаў на сценах дамоў надпісы, якія выклікалі ў яго горкія ўздыханні: «Тут памёр Бетховен», «Тут нарадзіўся Франц Шуберт», «Тут жыў Брамс».

Гуляючы, яны дайшлі да дома Попера, і віяланчэліст зноў не стрымаўся і горка ўздыхнуў.

— Ах, — сказаў Машкоўскі, — ці можаш ты сабе ўявіць, што за надпіс будзе тут у будучым?

— У будучым? — палка перапытаўся Попер. — Няўжо ты так думаеш?

— Канешне, — пажартаваў Машкоўскі, — можаш не сумнявацца, тут будзе напісана: «Дом здаецца ў наём!»

## НАЗЫВАЮЧЫ ПРОЗВІШЧЫ

Вядомая нямецкая спявачка Вільгельміна Шродар-Дэўрыент разгаварылася ў цягніку з выпадковай спадарожніцай. Калі размова зайшла пра тэатральныя навіны, дама раптам выбухнула гнеўнай тырадай у адрас Дэўрыент, не падазраючы, хто сядзіць перад ёй:

— Яна занадта старая для тых роляў, якія выконвае. Яна зусім без голасу... і да таго ж гэтая жахлівая фігура! Я лічу, што з Дэўрыент даўно пара пакончыць. А вы якой думкі? — звярнулася яна да незнаёмага чалавека, што сядзеў побач з ёй.

— Гэта сур'ёзнае пытанне, пані, і таму мне здаецца, што да яго абмеркавання належала б прыцягнуць пані Дэўрыент, — пачціва адказаў той, паказаўшы на спявачку.

На імгненне дама разгублена замаўчала, а ў наступную хвіліну ўзялася з запалам выбачацца:

— Вы не павінны крыўдаваць на мяне, пані Дэўрыент! Мяне ўвёў у зман артыкул у Дрэздэнскай вячэрняй газеце. Рэцэнзент Шмідар, які так абылгаў вас, мабыць, жахліва нягоднік! Калі мне як-небудзь надарыцца сустрэцца з ім, я абавязкова паўтару тое ж самае.

— Вам не давядзецца лішні раз турбавацца, — сказала, усміхнуўшыся, спявачка, — пан Шмідар — рэцэнзент Дрэздэнскай газеты — сядзіць побач з вамі!

## ПАДВЯЛА ПЛЯМЕННІЦА

Брат Ружэ дэ Ліля, які доўгі час служыў брыгадным генералам, нечакана выйшаў у адстаўку. На пытанні цікаўных пра прычыны адстаўкі, ён нязменна адказваў, што яго падвяла пляменніца.

— Хіба ў вас ёсць пляменніца?

— Вядома. Бо мой брат — бацька «Марсельезы».

## ДЫПЛАМАТ

— Малады чалавек! Хто гэта іграе: кларнет ці габой?

— Даруйце... Я прыезджы.

## ПАМЫЛКА АРАКУЛА

Да старога венскага капельмайстра прыйшоў малады чалавек і, працягнуўшы канверт з рэкамендацыйным лістом ад свайго першага настаўніка музыкі, сарамліва папрасіў навучыць яго кантрапункту.

Распячатаўшы канверт, капельмайстар прачытаў:

«Падаўца гэтага пусты фантазёр, які звар'яцеў на тым, што можа зрабіць пераварот у музыцы. У яго зусім няма таленту, і ён, канешне, за ўсё сваё жыццё не створыць нічога прыстойнага. Імя яго — Ёзэф Гайдн».

## КАЗАЧКА

Жыла-была кансерваторка, якая хацела скарыць свет музыкай.

І калі яна практыкавалася, дык пакідала закрытым вечка раяля, разумеючы, што іншым мяшканцам дома сваёй ігрой яна вялікай асалоды не прынясе.

І, граючы практыкаванні, яна ніколі не забывалася зачыніць вокны наглуха...

І ніколі не іграла пазней дзесяці вечара...

І калі яна хадзіла па вуліцах, дык ніколі не трымала ноты Бетховена такім чынам, каб усе бачылі імя гэтага кампазітара. Такой была яна.

Як шкада, што яна яшчэ не нарадзілася.




# Выкінь смецце з душы сваёй



Мабыць, толькі зрэдку, дый і тое ў суботні ці нядзельны вечар ты, паважаны чытач, сядаеш з кубачкам гарбаты з любімай кніжкай ва ўтульнае крэсла, каб адпачыць і расслабіцца. Час цяпер такі, што, каб пражыць, трэба добра круціцца — чэргі, крамы, выдумкі кулінарыі, каб зрабіць пастылыя макароны смачнымі без дарагога мяснога далікатэса... Усё — праблема: і маянэз, і прысмакі (як купіць разрэкламаваны «Анкл Бэнс», калі ён каштуе каля 20 тысяч — роўна адну пятнаццатую частку месячнага заробка?).

Дзень за днём вы адчуваеце, як слабееце, як нестае сілаў цягнуць цяжкі воз жыцця. І вы з бяссільнай зайздрасцю глядзіце на немаладых кабет альбо дзядзькоў, што з жывым бляскам у вачах прыходзяць на працу, скачуць на хаду на падножку аўтобуса ці бягуць за ім, каб паспець сесці. Вам здаецца, што здароўе —узнагарода, якая чамусьці дасталася ім, у той час як вам засталіся тупы галаўны боль, застылыя плечы, якія самі сабою згінаюцца пад цяжарам гадоў, дрэнны настрой і беспрасветнасць. Крыху ўзбадзёрвае кубачак кавы... альбо той жа гарбаты, на якую мы вас запрашаем.

Запрашаем дзеля размовы пра ... індыйскую жанчыну Сантош Кукрэджа, рэктара Пецярбургскага духоўнага універсітэта Брахма Кумарыс. Філіял яго, як мы пісалі ўжо, пачаў заняткі ў нашым горадзе. Я адшукала гэты універсітэт, каб пагутарыць з людзьмі, якія яго наведваюць. «Што вы шукаеце тут — здароўя ці нейкіх модных тэорый, якімі сёння затлумліваюць нашыя галовы шматлікія прапаведнікі з-за мяжы?» — задала я пытанне некаторым наведнікам, што рэгулярна прыходзяць на заняткі. Сярод іх, дарэчы, шмат інтэлігенцыі. І вось што мне адказалі.

Тамара Ровіна, былы культработнік, цяпер пенсіянерка:

«Спачатку мне было цікава — дзеля чаго прыязджаюць сюды жанчыны з далёкай Індыі? Няўжо ім там мала працы?» Але, пахадзіўшы на заняткі, я зразумела — нас хочуць вярнуць да саміх сябе, да здаровага ладу жыцця. Чалавек створаны вельмі гарманічна, у яго шмат ступеняў абароны, але калі мы хварэем, значыць, мы далёка адышліся ад нормы».

Алена Папцова, інжынер:

«Чым больш мы будзем думаць аб тым, што жывём няправільна, тым больш захочацца нешта змяніць. Мне здаецца, што гэтыя лекцыі падобныя да своеасаблівай псіхатэрапіі. Я значна паспакайнела».

...Слухаць лекцыі было цікава. На іх не гаварылася пра вялікія філасофскія плыні. Сантош Кукрэджа расказвала простыя гісторыі, але яны універсальныя для ўсіх часоў і народаў. Вось адна з іх: «Мудрэц быў запрошаны ў госці да раджы. Але пасля шыкоўнага абеду яму нястрымна захацелася ўкрасці залатую лыжку, што ён і зрабіў. Праз два дні, пераварыўшы абед і ачомаўшыся, ён стаў разважаць — чаму ён зрабіў гэтак? І, вярнуўшыся ў палац да раджы, зайшоў да повара, які рыхтаваў гэты абед. «Скажы, сын мой, ці не грашыў ты жаданнем красці?» — запытаўся ён. І, упаўшы ў ногі, прызнаўся повар, што ён — злодзей па прызванні, бо любіць красці, дзе можа...»

Пасля гэтай прытчы лепш зразумелыя вядомыя з даўніх часоў, але зусім забытыя чалавецтвам ісціны, адна з якіх — тое, што ўкладзена ў прыгатаванне ежы, абавязкова пакіне свой след у таго, хто з'ядае гэтую страву. Ці не таму пасля так званых «устаноў грамадскага харчавання» ў многіх узнікае такое адчуванне, быццам бы яны праглынулі не ежу, а жменю цвікоў? І незразумелыя прыступы агрэсіўнасці? І абыякавасць да ўсяго, у тым ліку і да сябе?..

А Сантош працягвае далей. Яна гаворыць жанчынам, што сядзяць перад ёю, аб тым, што рыхтуючы на кухні стравы, не трэба паддавацца дрэннаму настрою, скардзіцца на тое, што мяса дарагое ці не хапіла тлушчу.

Бо гэта якраз тыя прадукты, якіх трэба пазбягаць, таму што мяса — гэта забітыя жывёлы, кожная з якіх хацела жыць... Ці маем мы права на чужое жыццё, нават калі гэта — карова, якая, як нам падаецца, не мае душы? Але ж гэта не так. Нездарма ў Індыі карова лічыцца сімвалам маці-Зямлі, а ў славянскіх казках менавіта яна выручае сірату, ператварыўшы свае косткі ў залатую яблыню, якая пазней дапамагае той выйсці замуж за каралевіча...

Як мы ямо? Заскочыўшы дадому альбо ў сталоўку, хапаем вялізнымі глыткамі гарачую страву, апякаючыся і не перажоўваючы яе. У гэты ж час гаворым альбо слухаем радыё ці тэлеперадачу, часам чытаем.

«Нікога не трэба вінаваціць у тым, што ў вас пасля трыццаці гадоў узнікае астэахандроз, язва страўніка, цэлы букет іншых хваробаў. Пасля ўжывання такой колькасці мяса, якое як самы звычайны труп разлагалася па ўсім ланцужку ад бойні да вашай каструлі (яго везлі ў краму, яно ляжала ў вашым халадзільніку і г.д.), вам патрэбны духі, каб неяк прыкрыць пах, што міжволі ідзе ад цела. Парфума каштуе дорага, як дорага каштуе і парылка, якая дапамагае вывесці з цела шлакі. І зноў — пакуты. Ад таго, што няма грошай на мяса, і ад таго, што не хапае грошай на парфуму. «Падумайце — ці правільна мы жывем?»— гаворыць сястра Сантош, — і слухачы, пачынаюць па-іншаму ўспрымаць і яе белае адзенне, і тое, што халодны вецер з акна не астужае яе. Яна — моцная і дзеліцца тым, як стаць моцным і здаровым.

На любой вечарыне можна заўважыць, як жанчыны абменьваюцца пазіркамі, параўноўваюць — што на кім апранута і колькі яно каштуе. І тыя, хто апрануты бядней, адчуваюць зайздрасць і гнеў на іншых, на тых, хто мае сродкі на дарагія рэчы. А тыя, хто апрануты лепей, адчуваюць ганарлівасць. Ці правільна гэта? І ганарлівасць, і зайздрасць нараджаюць хваробы. Напачатку гэта хваробы духу, якія непазбежна прыводзяць да хваробаў фізічных. Вось чаму трэба ўмацоўваць свой Дух.

Ва ўсіх эзатэрычных вучэннях Слову надавалася асаблівая ўвага. І нездарма — яно нясе па вертыкалі генную памяць пакаленняў, энергію іх дзеянняў і мар. І нездарма лічыцца, што словам забіць можна больш лёгка, чым нават зброяй, бо ад ранаў фізічных можна ачуняць, а злое слова не загойваецца ў чалавеку ўсё жыццё. Аднак Слова можа і лячыць, толькі рабіць гэта трэба асцярожна: «Калі стрэмка ўваходзіць у цела, патрэбная тонкая іголка, больш тонкая, чым стрэмка,» — гаворыць народная індыйская мудрасць. Вось чаму такая вялізная адказнасць ляжыць на тых, хто працуе са Словам, хто прэтэндуе на тое, каб вучыць людзей. І зноў сястра Сантош расказвае прытчу: «Адзін адукаваны чалавек пайшоў да святога, каб папрасіць яго стаць ягоным Настаўнікам. Той запытаўся, не адчыняючы дзверы:

— Хто там?

— Я якраз і прыйшоў даведацца пра гэта.

— А што ты чытаў?

— Усе «Пураны» і «Гіту», а яшчэ шмат іншых кніг.

— Ідзі і выкінь усе кнігі ў раку, і пасля я скажу табе, хто ты».

Натуральна, гаворка тут ідзе не пра тое, што не трэба чытаць кнігі, а пра тое, што да сябе, сваёй душы «дастукацца» можна толькі ў адзіноце, разважаючы над тым, хто ты і для чаго прыйшоў на гэтую зямлю. Між тым, большасць людзей панічна палохаецца менавіта таго, каб хаця б на хвіліну застацца сам-насам з сабою. Прыйшоўшы з працы, многія адразу ж уключаюць радыё ці тэлевізар, якіх яны могуць часам і не слухаць, робячы нейкія свае справы, але без якіх жыць яны ўжо нібыта і не могуць. У выніку — крычыць радыё, гамоняць між сабою жыхары кватэры, за акном гудуць машыны — і начны сон чамусьці не робіць свежым, не дае новых сіл. Адкуль жа яны будуць, тыя сілы?

Нават старажытныя народы, якія не атрымлівалі ніякіх гукавых удараў і такіх стрэсаў, рабілі раз на месяц «дзень маўчання». Японцы, напрыклад, ішлі ў храмы, каб там у самоце памаліцца і ўзгадаць пра памерлых. У іншых народаў проста было прынята дзень не размаўляць, таму што ў гаворцы, асабліва бязмэтнай, губляецца шмат энергіі. Яшчэ больш энергіі ідзе на рознага кшталту плёткі. Таму што, па выказванні сястры Сантош, калі перадаюць плётку, то цябе нібыта прымаюць за сметнік. Хіба мала таго смецця, якое табе трэба выкінуць з сябе, каб яшчэ прымаць бруд, што расказваюць пра іншых?

Гэта толькі некаторыя рэчы, без якіх нельга зразумець сваю душу, а, значыць, зрабіць здаровым і цела. Кожны чалавек мае сваё, асаблівае прызначэнне на Зямлі, тым ён і бясцэнны. Але якое прызначэнне ў цябе?

Вада, зямля, агонь, паветра — спрадвечныя, кожны робіць сваю справу, пераплятаючыся з іншымі. «Рэлігія вады — прахалода», — сцвярджае мудрая індыйская жанчына, якая прыехала да нас, каб дапамагчы нашаму хвораму духу. Дапамагчы нагадваннем простых, але такіх складаных для нас сёння ісцін, бо мы далёка адышлі і ад Вады, якая прыходзіць да нас з вадаправоднага крана, прайшоўшы толькі хлоравую апрацоўку і несучы адзін Бог ведае якую інфармацыю, і ад Агню, які мы ўжо даўно не бачылі жывым, і ад Зямлі, да якой амаль не дакранаемся праз свае гумавыя альбо поліурэтанавыя падэшвы, і ад Паветра, бо яно забруджана, асабліва ў вялікіх гарадах. А вяртацца да іх павінны —кожны па-свойму, кожны праз уласныя пераадоленні, праз «не магу». Бо можа — кожны.

**Таццяна ДАЛГОВА.**

Культура
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ШАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара — Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:
А. ВАНЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД, Барыс ШУЛЬМАН
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ
Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра газеты «Культура»

Адрас рэдакцыі: 220050, МІНСК (МЕНСК), вул.КІРАВА, 25, кв. 12.

Тэлефон: 27-83-18

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

©
Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 13000
Замова 50
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

